ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

16 верасня 1994 г. № 37 (3759) Кошт 25 руб.







***Дзень беларускай вайсковай славы святкуецца ўжо трэці раз. У 1992 годзе людзі збіраліся на плошчы Незалежнасці, летась — на плошчы перад Оперным тэатрам. Сёлета святочныя імпрэзы адбыліся на дзвюх пляцоўках, перад Оперным і на плошчы Якуба Коласа. Акрамя таго, ладзіліся выставы і навуковыя канферэнцыі.***

*(Пра святкаванне — чытайце на стар. 3)*

*Фота БЕЛІНФАРМ*





## ДОБРАЯ СПРАВА



Заўсёды прыемна, калі ў абліччы роднага горада з'яўляецца штосьці незвычайнае. Верагодна, не вельмі вялікія сродкі спатрэбіліся, каб ажывіць вось такім пано (на здымку) безаблічны старчак дома ля ўваходу ў кавярню «На Падгор'і», што на вуліцы К. Маркса ў Мінску.

А колькі такіх мясцін у горадзе чакае свайго часу! Відаць, варта было б гэтыя шырокія «палотны» аддаць маладым мастакам, як гэта ўжо даўно зрабілі нашы суседзі-прыбалты. Няхай упрыгожаць творы маладых наш горад!

**Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛІНФАРМ**

*Фота аўтара*

## ПРАФЕСІЯНАЛІЗМ НЕ БЫВАЕ... ШМАТТЫРАЖНЫМ

**По праўдзе кажучы, у некаторых з нас існуе гэткае паблажлівае стаўленне да некаторых перыядычных выданняў, што яшчэ нядаўна адносіліся да так званых шматтыражак. Забываюць «крытыкі» пры гэтым, што прафесіяналізм не бывае... шматтыражным. Сведчанне таму і газета «Навіны Акадэміі навук Беларусі», у якой шмат публікацый, што тычацца праблем нацыянальнага Адраджэння, развіцця культуры, мастацтва.**

**Адзін з апошніх нумароў (9 верасня 1994 года) у гэтым сэнсе не выключэнне. Больш таго, рэдка надараецца, каб адразу публікаваліся некалькі матэрыялаў на згаданую тэму. Па-першае, радуе і абнадзейвае паведамленне А. Філіповіча з Інстытута мовазнаўства «Рыхтуюцца новыя выданні», што па-ранейшаму плённа працуе гэты калектыў. Мяркуецца выпусціць аднатомнымі выданнямі тлумачальны і этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Агляду і даследаванню мовы газеты «Наша Ніва» прысвечаны спецыяльны слоўнік у трох тамах — «Слоўнік мовы «Нашай Нівы». У хуткім часе ўбачаць свет і дзве манаграфіі — «Параўнальная фанетыка ўсходнеславянскіх моў» і «Супастаўляльнае апісанне рускай і беларускай моў». Працягваецца праца над «Лінгвістычным атласам Еўропы» і «Агульнаславянскім лінгвістычным атласам». Распрацоўваецца новая «Граматыка беларускай мовы».**

**У газеце прыводзіцца выказванне рэдактара гэтай працы, дырэктара Інстытута мовазнаўства члена-карэспандэнта АН Беларусі А. Падлужнага: «Над гэтай тэмай ужо некалькі гадоў працуюць тры ўстановы: БДУ, педагагічны універсітэт і Інстытут мовазнаўства. Мы плануем выпусціць кнігу невялікую па аб'ёме (не больш за 50—60 аркушаў) і шырокую па інфармацыі. Не апісальнага тыпу ўсіх магчымых граматычных нормаў і правілаў, а найбольш распаўсюджаных і зручных для ўжывання. Калі ў першай «Граматыцы беларускай мовы» ўдзялялася ўвага толькі марфалогіі і сінтаксісу, а ў другой дабавіліся такія раздзелы мовазнаўства, як фаналогія і арфаэпія, то зараз мы дабаўляем яшчэ і фанетыку з правапісам. І ўсё гэта ў меншым аб'ёме, сцісла і дакладна. К сённяшняму дню мы ўжо падрыхтавалі раздзелы фанетыкі, фаналогіі, арфаэпіі і часцін мовы (акрамя дзеяслова). Заканчэнне ўсёй працы плануецца на 1995 год».**

**Як вядома, на сённяшні дзень у Акадэміі навук цяжкае фінансавае становішча. Гэта тычыцца дзейнасці (і існавання) і музея старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Як выжыць яму? На гэтае пытанне спрабуе даць адказ М. Гогалева ў матэрыяле «Дзіця, вартае апекі». У аснову яго пакладзены інтэрв'ю з загадчыкам музея, доктарам мастацтвазнаўства В. Шмагавым і намеснікам дырэктара ІМЭФ, доктарам мастацтвазнаўства А. Фядосікам.**

**А вось паведамленне А. Біцарука «Дзе вы, мецэнаты?», змешчанае пад рубрыкай «У Інстытуце філасофіі і права», хацелася б, каб зацікавіла камерцыйныя структуры. Менавіта ад іх падтрымкі залежыць лёс рукапісу кнігі У. Агіевіча пра Ф. Скарыну, на выданне якой пакуль няма сродкаў. Урэшце, як і на выданне іншых навуковых прац.**

Рыгор БАРАДУЛІН

# ПАЛІТЛІРЫКА

## КАПТАН

**Калючым дротам сшытая імперыя
Нядужа разыходзіцца па швах,
Бо навырост закройшчыкі адмервалі
Каптан,
Каб вольны ў ката быў размах.**

**Зашпільвалі Валодзечкі ды Юзікі
Каптан-каптан,
Паганячы зямлю,
І адрывалі з мясам
Тыя гузікі,
Якія не пралазілі ў пятлю.**

## ЗГОДНІКІ

**Струхлеў аднапартыйны гнёт,
І пачалі расці,
Нібы
Ля пня разлапага грыбы,
Зноў партыі ўсялякіх згод:
Згоды тапельца з вірам,
Мышкі-нарушкі з сырам,
Хваста з аваднём,
Саломы з агнём,
Смеху з выццём,
Смерці з жыццём.
Абы не спрачацца
Ківаць галавою
Да апошняга ківу
Пачціва,
Лічачы старэйшай сястрою
Партыю камуністычнага дзіва.
Згоднікі,
Як сапселыя зводнікі,
Хочуць давесці ўсім,
Што ад згоды
Абымшэлыя зацвітуць калоды,
І здань,
Што блукала ў Еўропе калісьці,
На валунах
Узгадуе зялёнае лісце.
Хоць партыі згоды
Не робяць пагоды,
Ды водзяць партыйныя карагоды.
І пляскаюць ім,
Аж збіваюць далоні
Камуністы ў законе.
Пакуль нерашучыя дэмакраты
Рыцарскія прымерваюць латы,
Іхнія нецярплівыя коні
Застояліся ў загоне.**

## ЦІ РАД?

**Чаму,
Як тыя ракі ў нераты,
Мы ціснемся ў малодшыя браты,
І не пытаем нават,
А ці рад
Нас за братоў лічыць
Старэйшы брат?
Кіраўнікам
Абы была нагода
Выказваць згоду
Ад імя народа!**

## НІ Ў АДНУ

**А дрэвы ў партыю ні ў адну
Не ўступалі
І не выходзілі з партый.
Сваю зялёную даўніну
Ахоўваюць зялёнаю вартай.**

**Шумяць у буру,
Трашчаць у мароз,
І на касцёр узыходзяць нема.
У дол
Адчай невыносны ўрос,
Упёрся гнеў высакосны
У неба.**

**Дубровы й пушчы,
Гаі й бары —
Як селішчы й гарады людскія
Таму,
Хто лушчыцца ў павадыры,
Ахвотна пазычаць дубец
Для кія.**

**Як трэба,
Пазычаць аграблям зубоў,
Каб не згніло ні сяніны доле,
Ды партыю ні асін, ні бяроз
Ствараць
Не шумелася дрэвам ніколі.**

# РАЗУМЕЦЬ ПРЫГАЖОСЦЬ СУСВЕТУ

***З 1989 г. традыцыйна праводзяцца выставы аршанскіх мастакоў у невялікай — з трох пакояў — выставачнай зале. Заўсёды ўдзельнічае ў іх златашвачка Валянціна Андрэеўна Янкоўская. Сёлета яна прадставіла гледачам новую работу — абразок Божай Маці з дзіцем (25 на 30 сантыметраў).***



У чым крыніца майстэрства мастачкі, якая раскрыла свой талент у такой рэдкай форме ўвасаблення творчай задумы? Шыццё натуральна перадавалася ў гэтай сям'і з пакалення ў пакаленне. З дзяцінства прыахвоцілася да вышывання і сама Валя. Пазней стала навучаць гэтаму майстэрству дзяцей у школе. Да таго ж пісала алеем і акварэллю партрэты, нацюрморты, пейзажы, зусім не думаючы пра тое, што хутка цалкам захопіцца ніткамі і камянямі. Майстэрства залатога шытва з адмысловай тэхнікай, цудоўнымі традыцыямі мінулага, выкананае залатой і шаўковай ніткай з выкарыстаннем каштоўных і паўкаштоўных камянёў заўсёды прыцягвалі Валянціну Янкоўскую на выставах.

Увесну 1991 г. Янкоўская стварае свае першыя вышываныя работы, узяўшы для іх сюжэты з прыроды. Мастачка працуе з вялікім уздымам, ствараючы мініяцюры, розныя па форме і колеры, дае ім паэтычныя назвы — «Пяшчота», «Смародавы водар», «Ліпеньскі ранак» і г. д. У канцы 1991 г. з'яўляецца прыгожая серыя пад агульнай назвай «Пара года». Рамы для іх зрабіў Яўген Жураўлевіч, адзін з аршанскіх мастакоў-разьбяроў па дрэве. Ён потым і падказаў ёй ідэю вышыўкі ікон.

Выстаўленыя ў Траецкім прадмесці Мінска ў 1992 г. работы В. Янкоўскай заўважылі ўсе, хто наведваў экспазіцыю. Так быў падведзены вынік першага этапу творчасці мастачкі, часу набыцця майстэрства, навыкаў, засваення традыцый.

1992—1993 гады былі для мастачкі надзвычай плённымі. «Паэзіяй формы і колеру» назваў работы адзін з наведвальнікаў яе выставы. Тут Янкоўская пачынае ўжо выкарыстоўваць камяні: халцэдон, гранат, аметыст, турмалін, бурштын, што ажыўляюць работы сваім мігценнем. У складаным перапляценні формаў узнікаюць мудрагелістыя ўзоры птушак, скамарохаў, аблічча і сілуэты людзей, анёлаў. Чорны аксаміт фону — застаецца не зашытым, што стварае кантраст з карычневым, ізумрудным, пурпуровым тонам шаўковай ніткі. Гэта манера ўласціва старажытна-рускаму шыццю XVI стагоддзя.

Цікавы дыптых мастачкі «Смутак» і карціна «Пацалунак Юды». Гэтыя работы — пра каханне. Аднак, калі ў першай каханне да памерлай дзяўчыны ператвараецца ў вечны смутак хлопца, то ў другім каханне — гэта крывадушнасць і здрада. Так упершыню мастачка дакранулася да Бібліі, так пачаўся новы этап у яе творчасці.

У маі 1992 г. Янкоўская бярэцца з вялікім уздымам за стварэнне ўлюбёнага ёю вобраза Багародзіцы. Унутраны стан творчай і духоўнай радасці выразна адчуваецца ў рабоце. Карціна асветлена любоўю маці да свайго сына: залацістыя, карычневатыя, пурпуровыя адценні твару, рук і сукенкі, німб з уплеценым у яго бурштынам. І толькі чорная тканіна на валасах сведчыць аб хуткім развітанні. Прадстаўленая ў гэтым жа годзе на выставе ікона выклікала прыязнасць гледачоў і мастакоў.

Мастачка не пакідае былыя фантазіі і мары, з'яўляюцца работы «Містыка месячнай ночы», «Мядовы вечар» як успамін аб самай першай серыі, прысвечанай прыродзе. Вечнасць — улюбёная тэма Янкоўскай у жывапісе і вышыўцы. Душа чалавека самотна вандруе, імкнецца да ачышчэння і свабоды.

У 1994 г. Янкоўская бярэцца за новы абраз Багародзіцы. Аднак гэта зусім іншы твор па змесце і духоўным увасабленні вобраза. Праз каханне да свайго дзіцяці спасцігаецца каханне да чалавецтва, узнікае вялікі, Богам дадзены рух душы да выратавання. Вось чаму такое спакойнае аблічча Багародзіцы і дзіцяці, такія стрыманыя і светлыя фарбы. Сем камянёў з аметысту і рубіну ўпрыгожваюць німб Багародзіцы. Абраз акаймоўвае разьбяная рама з чырвонага дрэва ў арачным стылі.



Кожная работа Янкоўскай — гэта ціхая і спакойная размова з гледачом. Гэта — жаданне ўзвысіць свет пачуццяў чалавека да разумення прыгажосці сусвету.

**Ірына КАСОЎСКАЯ**

*г. Орша*

*На здымках: Багародзіца. 1992 (уверсе), Багародзіца. 1994.*

Адгалоскі

# «НЕ ПІШЫ ЧОРТВЕДАМА ЯК»

***У «ЛіМе» за 5 жніўня г.г. быў змешчаны артыкул Ігната Дуброўскага пад такой назвай, у якім уздымаўся шэраг пытанняў, звязаных з падрыхтоўкай рэформы правапісу літаратурнай беларускай мовы, а таксама з некаторымі культуралагічнымі і іншымі праблемамі, што цікавяць сёння грамадскасць краіны.***

***Артыкул не прайшоў па-за ўвагай чытачоў штотыднёвіка і, як мы і чакалі, выклікаў неадназначную рэакцыю, пра што сведчыць частка нашай пошты.***

## ПРЫЕХАЛІ...

Грамадства наша патрабуе адмысловага лекара. Гэта вядома даўно. Хто толькі ім стане? Не выключана, што нейкі імпульс да аздараўлення становішча ў нашай краіне можа даць першы прэзідэнт і навастворанія структуры ўлады. Не выключана, што сам факт пераўтварэнняў ва ўладных структурах можа выклікаць у людзей памкненне да паляпшэння свайго стану. Зрэшты, гэта толькі вонкавыя фактары, якіх можа аказацца замала.

Бадай, адным неаспрэчным крытэрыем у працэсе аздараўлення грамадства можа стаць утрываленне нацыянальна-дзяржаўніцкага менталітэту ва ўсіх сферах жыццядзейнасці краіны. На яго ўсталяванне з прычыны аж празмернага імкнення ўвасобіць мару свайго жыцця не пажадаў паслядоўна працаваць былы Старшыня Савета Міністраў сп. В. Кебіч са сваімі калегамі па ўрадзе. Зрэшты, працэс самаўсведамлення беларусаў сябе адзіным народам з багатымі гістарычнымі і культурнымі каштоўнасцямі праходзіць і без асаблівага ўдзелу ўладных структураў. За апошнія колькі гадоў у асяроддзі беларускага грамадства дастаткова надзейна ўтрывалася ўсведамленне глыбіннасці традыцый нацыянальнай дзяржаўнасці: ад Полацкага княства праз Вялікае княства Літоўскае, Жамойцкае і Рускае, Беларускую Народную Рэспубліку, БССР і да Рэспублікі Беларусь. Іначай глядзім мы сёння на многія гістарычныя факты, адно ўпамінанне якіх яшчэ ў нядаўнія часы лічылася ці не найгоршай крамолай. Ужо і высокія дзяржаўныя кіраўнікі прызвычаіліся гаварыць пра Беларусь як пра краіну, дзяржаву.

Аднак шмат якія праявы новага часу, закліканыя ўзвесці Беларусь на «пачэсны пасад між народамі», нярэдка сустракаюць рэзкае адмаўленне з боку людзей, для якіх наша краіна ўяўляе адно прыдатную для пражывання тэрыторыю. І што толькі ні сцвярджаюць такія «руплівцы беларушчыны» дзеля абгрунтавання сваіх поглядаў. Давід Пінхасік, у прыватнасці, у «Народнай газеце» за 15 чэрвеня 1994 г. дапісаўся, «что победа была одержана под красным и красно-зеленым флагами, незаконно поверженными беловежскими затворниками». Калі браць цытату адасоблена, то можна падумаць, што перамога тая была атрымана над палескімі балотамі ці яшчэ нечым, добра памятным сённяшнім людзям, і з прычыны якой мы пажынаем штодзённае спакоцце, інфляцыю, разгул бандытызму. Як жа іначай успрымаць выказванне сп. Д. Пінхасіка, калі чырвона-зялёны «бэсэсэраўскі» сцяг быў зацверджаны з ласкі «бацькі народаў» у 1951 г.

Нешта падобнае, як і няўвязка са сцягам, закралася ў выказванне вядомага народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь сп. Нятылькіна, калі на апошняй сесіі Вярхоўнага Савета ён безапеляцыйна кінуў у залу: «белорусский народ кроме как по языку трудно отличить от русского народа». Усё гэта, як і перапяванне таго ж сп. Д. Пінхасіка, «что под бело-красно-белым флагом и символом «Погоня» гитлеровские пособники в годы войны уничтожали партизан и подпольщиков», можна ўрэшце расцэньваць не больш за эфектны пасаж, разлічаны на поўную адсутнасць у людзей досведу адносна сябе і сваёй мінуўшчыны. Да падобных падтасовак не даходзіў у сваіх лекцыях нават сумнавядомы прафесар Лаўрэн Абэцэдарскі, хаця і быў ён майстрам гістарычнай фальсіфікацыі. На тое, відаць, і быў вучоным з высокім тытулам, каб умела перастаўляць факты.

Але гэта ўсё людзі па меншай меры халодныя да працэсаў беларускага Адраджэння. Іншая справа, калі нешта падобнае пачынаюць пісаць ці гаварыць тыя, хто, здавалася б, неабыякавы да лёсу нашай зямлі, яе культуры, традыцый, гісторыі, мовы. Менавіта з такога гледзішча і варта расцэньваць артыкул Ігната Дуброўскага «Не пішы чортведама як», апублікаваны ў «ЛіМе» за 5 жніўня 1994 г. Адзначым, што з шэрагам выказванняў аўтара варта пагадзіцца. Але менавіта ў тым і парадаксальнасць публікацыі, што побач са слушнымі выказваннямі ў ёй суседнічаюць дарэшты абсурдныя факты.

І. Дуброўскі, гаворачы адносна назвы нашае сталіцы, піша: «І гэта пры тым, што ёсць пастанова Мінскага гарадскога Савета называць сталіцу Беларусі Мінскам». Дазволім сабе працытаваць дастаткова лаканічны і строгі дакумент — рашэнне N 167 ад 5 верасня 1991 г. 5-й нечарговай сесіі Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў XXI склікання, у п. 2 якога гаворыцца: «Звярнуцца ў ВС БССР з прапановай адмяніць рашэнне 2-й сесіі ВС БССР 1-га склікання ад 29 ліпеня 1939 г., згодна з якім горад Менск быў перайменаваны ў Мінск». Іншых рашэнняў адносна назвы сталіцы орган гарадской прадстаўнічай улады не прымаў.

Гаворачы ж адносна ўжывання назвы Менск, аўтару варта было б разгледзець увесь комплекс пытанняў, пачынаючы ад канца XVII—XVIII стст., калі пачынае набіраць моцы паланізатарская тэндэнцыя. Пад уплывам гэтага працэсу і адбыліся пэўныя змены ў тапаніміцы Беларусі. Адсутнасць якой-небудзь увагі да беларускіх традыцый выявіў і рускі царызм, як і бальшавіцкія ўлады. Царская адміністрацыя, як вядома, хутчэй ішла на супрацоўніцтва з польскай або прапольскай магнатэрыяй. Пра тое сведчаць, у ліку астатніх, і шматлікія факты пераймання ў рускай мове польскіх традыцый у назвах беларускіх гарадоў і мястэчак: Лиозно, Гродно, Новогрудок і іншыя. У Мядзельскім музеі маецца дастаткова красамоўны факт ужо пазнейшай пары, які сведчыць пра такія пераймані. У падрыхтаванай напярэдадні восеньскага 1939 г. наступлення Чырвонай Арміі карце тэрыторыі Заходняй Беларусі выкарыстаны выключна польскамоўныя назвы мястэчак і вёсак, рэк і ўрочышчаў. Зразумець гэта можна, у прыватнасці, з тактычнага пункту гледжання. Але ж многія такія назвы перайшлі і ў пазнейшыя карты савецкія, што замацавала экспансію чужароднай моўнай традыцыі ў беларускую (той самы Крулявец, бо ў беларускай мове кароль, а не круль).

Заўзятарамі беларускага Адраджэння вяртанне назвы Менск разглядаецца менавіта як зварот да нацыянальных традыцый ва ўсіх сферах жыцця, а ў дадзеным выпадку — рэабілітацыя рэпрэсаванай назвы сталічнага горада, што зроблена было без усякага навуковага абгрунтавання ва ўгоду палітыкі набіраўшага сілу таталітарна-рэпрэсіўнага рэжыму. Аргументам для прыняцця згаданага вышэй рашэння N 167 сесіяй Мінскага гарсавета было пераважнае выкарыстанне назвы Менск у сярэдневяковых беларускіх дакументах, а таксама — яе этымалогія. Зразумела, пэўны ўплыў аказала і пазіцыя карыфеяў беларускага Адраджэння часоў БНР і першага дзесяцігоддзя БССР. Выкарыстанне дзеля адмаўлення назвы Менск чатырохрадкоўя з «Кароткай гісторыі Беларусі» Вацлава Ластоўскага, думаецца, не можа быць дастаткова абгрунтаваным навуковым, ды і эмацыянальным аргументам.

Другім фактам недарэчнасці выкарыстаных у дыскусіі аргументаў з'яўляецца спасылка на англамоўнае гучанне назвы сталіцы Аб'яднанага каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі «Лондан». Самі англічане, як і ўвесь англамоўны свет, называюць гэты горад Ландан.

І ўжо зусім дзіўным выглядае атаясамленне сп. І. Дуброўскім словаў «нацыяналіст» і «фашыст». Што называецца, прыехалі. Нам вядома, што сусветная грамадскасць укладае адмоўны сэнс у паняцце «шавінізм». Пад нацыяналізмам большасцю, ва ўсякім разе еўрапейскіх, народаў разумеецца любоў да вартасцей сваёй нацыі. Пры гэтым у многіх выпадках праявы нацыяналізму характэрны для нешматлікіх народаў і выкарыстоўваецца імі як механізм супрацьстаяння шавіністычным памкненням больш магутных суседзяў.

Думаецца, не было б патрэбы гаварыць пра нацыяналізм беларускі, калі б не паланізатарскае, пазней і русіфікатарскае ўздзеянне, якія часам дзейнічалі сумесна, на беларускі народ. У дадзенай сітуацыі нацыяналізм варта разглядаць як адзін са спосабаў рэалізацыі нацыяй свайго права на выжыванне, механізм умацавання ўласных самабытных прыкметаў.

Вось такая атрымоўваецца ў нас дыскусія: ёсць толькі белае і чырвонае. Але ж, шаноўнае спадарства, за апошнія гады, дзякуй Богу, можна без аглядкі спазнаваць шматколернасць свету. Ды і чорны з белым, як вядома, маюць свае адценні. Таму, выстаўляючы свае аргументы, было б няблага спачатку заглыбіцца ў аргументацыю апанента, і, што важна, высветліць праўдзівасць уласных довадаў.

**Ігар ЧАРНЯЎСКІ**

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ САМАСВЯДОМАСЦЬ: ПОШУКІ І СПАКУСЫ

Артыкул Ігната Дуброўскага зачапіў за жывое, і хочацца выказаць некалькі слоў адносна нацыяналізму і патрыятызму беларусаў. І. Дуброўскі піша: «Аб'яднаць народ Беларусі можа толькі народная, у сэнсе — дзяржаўная ідэя. Такой ідэяй можа стаць дзейны, актыўны патрыятызм. Ён здольны аб'яднаць усіх людзей рэспублікі. На жаль, у апошні час словы патрыятызм, патрыёт амаль не ўжываюцца. Яны замяняюцца словам нацыяналізм. Сэнс, напоўненасць гэтага слова вызначыла XX стагоддзе, зрабіўшы яго сінонімам слова фашызм. Адмыць яго да станоўчага сэнсу ўжо немагчыма. Ва ўсякім разе, слова нацыяналізм узвышае адну нацыю над нацыямі іншымі, а гэта да дабра не вядзе».

З аўтарам тут можна і пагадзіцца, і паспрачацца. Наогул, нашым вучоным трэба вызначыцца са словамі — нацыяналізм і патрыятызм.

У час выбарчай кампаніі я агітаваў за Зянона Пазняка. І вось што я пачуў ад малаадукаваных і маласвядомых людзей (а іх большасць у нашай дзяржаве): Зянон Пазняк — нацыяналіст і ён можа развязаць вайну. Коратка і «ясна».

На мой погляд, беларускаму народу сёння, як ніколі неабходна здаровая нацыянальная самасвядомасць. Гэтага нам не трэба баяцца. Руская рэлігійная філасофія не страшылася слова «нацыяналізм», а разумела пад ім духоўна здаровую любоў да свайго народа і супрацьпастаўляла яго «хвораму», пачварнаму, сапсаванаму нацыяналізму, які вёў народы да адасаблення, узаемнай нянавісці і культурнаму застою. Вось што на гэты конт пісаў выдатны рускі мысліцель І. А. Ільін. «Национализм есть любовь к историческому облику и творческому акту своего народа во всем его своеобразии. Национализм есть Вера в инстинктивность и духовную силу своего народа, вера в его духовное призвание. Национализм есть Воля к тому, чтобы мой народ творчески и свободно цвел в Божием саду. Национализм есть Созерцание своего народа перед лицом Божим, созерцание его души, его недостатков, его талантов, его исторической проблематики, его опасностей и его соблазнов. Национализм есть Система Поступков, вытекающая из этой любви, из этой веры, из этой воли и из этого созерцания».

На маю думку, паўнацэннае духоўнае жыццё можа быць дасягнута намі, беларусамі, толькі пры наяўнасці нацыянальных ідэалаў, якія павінны быць прыняты нацыяй і паспяхова праводзіцца ў паўсядзённым жыцці.

Пры гэтым нам заўсёды трэба памятаць: нацыянальныя ідэалы павінны быць у першую чаргу абгрунтаваны і апраўданы маральна, а затым і нацыянальна. Любы ўчынак, у тым ліку і нацыянальны, павінен быць падвергнуты маральнаму суду яшчэ да яго здзяйснення. Пры наяўнасці такіх узвышаных ідэалаў народ заўсёды шукае і знаходзіць сілы для свайго адраджэння, для выхаду з крызісу, у самім сабе і, у першую чаргу, у сваёй духоўнай культуры і гісторыі.

Нам трэба ўсім зразумець, што сёння адраджэнне беларускай нацыі немагчыма без актыўнай пазіцыі кожнага чалавека, вызвалення яго ад тых камуністычных стэрэатыпаў, якія дапамагалі ўладзе стварыць велізарную сістэму насілля над чалавекам. Трэба адзначыць, што БНФ настойліва працуе ў гэтым накірунку, але поспехаў тут не вельмі шмат. Прычына гэтага ў нізкай нацыянальнай самасвядомасці насельніцтва. Толькі пры ўмове занава прышчэпленай нацыянальнай самасвядомасці мы зможам духоўна адрадзіцца і прыйсці да паўнацэннай нацыянальнай палітыкі, да ўздыму і росквіту нашай рэспублікі.

**А. ЗАРАНОК,**
**намеснік старшыні Беларускай сялянскай партыі**

## ПАДНІМІЦЕСЯ З КАЛЕНЬ

Прачытаў артыкул І. Дуброўскага «Не пішы чортведама як» і быў здзіўлены пазіцыяй аўтара. Захацелася выказаць свае меркаванні па пытаннях, закранутых у артыкуле.

Аб назове Менск. Я не буду спрачацца. Проста факты. Дарэчы, вершы або песні — не вельмі ўдалы прыклад. Таму што ўсе добра ведаюць, што ў вершах можна для рыфмоўкі змяняць літары і нават націск у слове. Так і тут: «Мінск — Пінск» — рыфма. А вось радкі з лістоў Ф. С. Кміты-Чарнабыльскага (помнік старажытнай беларускай пісьменнасці канца XVI ст.): «... розказал есьми того гоньчыка до Менська провадить и там его, у Меньску, застановить до науки...» (Ліст пісаны ў верасні 1574 года). Радкі з Баркулабаўскай хронікі (помнік пісьменнасці канца XVI—пачатку XVII ст.): «А тот гнев божий был и непогода, почавши от Менска до Полоцка...» (1601 год, кастрычнік, 10 дня). Вось вам і XVII стагоддзе! Мяркуйце самі.

Пра богаслужэнне таксама хачу паспрачацца. Не ведаю як у Менску, але ў Баранавічах, Нясвіжы, Гародні беларуская мова гучыць якраз толькі ў каталіцкім храме. Такім чынам, русіфікацыя ідзе не толькі ад бюракратыі дзяржапарату, але і ад праваслаўнай царквы таксама.

Аўтар клапоціцца аб чысціні роднай мовы. Безумоўна, гэта радуе. Але якое «хараство» прапануе ён? Прасцей за ўсё нічога не шукаць, не клапаціцца. Навошта?! Некалі нам прапанавалі новае вымаўленне беларускіх слоў, бо ранейшыя не вельмі лёгка гучалі і вельмі цяжка запаміналіся сямутаму з велікаросаў. Каб «наблізіць» мовы камуністы-русіфікатары настаялі на тым, каб змяніць алфавіт у Сярэдняй Азіі, у Азербайджане. Праўда жаданага падабенства моў не атрымалася, вось толькі агульны алфавіт суцяшаў «спецыялістаў-філолагаў» і правадыроў, якіх шмат змянілася за гэты час. Прасцей і лягчэй са славянамі, асабліва з беларусамі. З'явілася шмат новых правілаў вымаўлення. Наша мова загучала больш «звыкла» для расейцаў. І як заўсёды было гэта зроблена «по воле трудящихся масс».

А чаму б і цывілізаванай Еўропе не зрабіць свае мовы больш падобнымі на мовы суседзяў? Нават падумаць такое нельга, бо знікне самае галоўнае ў нацыі — адметнасць.

Аўтар паведамляе пра адмоўны вынік апытання А. Злотнікава ў Гомельскай вобласці. Можна адказаць яму словамі М. Бярдзяева: «Что можно сказать в такой атмосфере, насыщенной страстями, при такой интеллектуальной элементарности».

«У нас усё ў мінулым. Будучыні няма. Застаецца адно — вярнуць мінулае. Што гэта?» — разгублена пытаецца аўтар. Зноў жа можна адказаць вельмі трапнымі словамі М. Бярдзяева: «Культура связана с культом предков, с преданием и традицией... Воля к культуре всегда захлёстывается у нас волей к жизни».

Няўжо сам аўтар не глядзеў у мінулае, няўжо ён зрабіў свае крокі адразу ў будучыню. Мне здаецца, што спачатку ён, як і ўсе мы, дарэчы, вывучаў жыццё на прыкладзе бабулі і дзядулі, маці і бацькі, г. зн. мінулага пакалення. Ад мінулага ён узяў спосаб мыслення, ад мінулага ў яго сфарміравалася ўяўленне пра дабро і зло, а ўжо потым пачаў глядзець у будучыню. Без мінулага — няма будучага. Навошта ж тады аўтар, які жыве ў будучыні, звяртаецца да сваіх каранёў: «На маёй бацькаўшчыне, — Міншчыне, мягкае «л» і цвёрдае «е»... не ўжываецца». А навошта звяртацца да гэтага, гэта ж у мінулым, паважаны аўтар. Трэба тады нешта новае ўводзіць, а не глядзець на продкаў.

Многія беларусы маюць адметную рысу — яны не шануюць продкаў. Усё ліха ідзе адгэтуль. Мы адышлі ад прыроды — з'явілася шмат новых захворванняў, адышлі ад продкаў — згубілі сваю мову. Так, нават «великий и могучий» таксама вульгарызаваўся і зрабіўся больш прасцейшы. Параўнайце мову твораў Тургенева, Чэхава з сучаснымі аўтарамі, вершы Фета, Жукоўскага з Вазнясенскім. Дзе больш гучна, больш эмацыянальна? Рускія таксама згубілі сваё слова, сваю сапраўдна багатую мову. І гэта народ, які жыве на вялікай тэрыторыі. Дарэчы, яна (тэрыторыя) заўсёды вызваляла яго ад захопаў ворагам, а вось тут і тэрыторыя не дапамагла.

Пра беларусаў можна сказаць нават больш смела — яны не толькі згубілі мову, а пакуль што нават і не існуюць як нацыя.

Ну што ж, давайце народзім новую мову, якая выкарыстае ўсю сённяшнюю «трасянку». Бо аўтар за такую мову, на якой размаўляе сёння народ. А мы ўсе ведаем што гэта за мова.

Да таго часу, пакуль мы не набудзем уласнай годнасці, пакуль не збяром у адно цэлае тое, што засталося нам ад продкаў, г. зн. мову і культуру, пакуль будзем глядзець, схіліўшы галаву ў бок народа, які размаўляе на «великом и могучем» — мы не будзем нацыяй: не будзем беларусамі. Пакуль народнымі героямі будуць Мазураў і Машэраў — людзі, якія знішчылі прыроду Беларусі асушэннямі балот, якія садзейнічалі знішчэнню роднай мовы — у народа не будзе будучыні. Пакуль у большасці народа героі — чыноўнікі, пры якіх была танная каўбаса і гарэлка, — не будзе мовы і нацыі. Будзе толькі натоўп...

**Алег БЕРНАТ**

*г. Баранавічы*

## БІБЛІЯТЭЧКА «ПРАЛЕСКІ»

**— не навінка. Ужо некалькі разоў на сваіх разваротах часопіс змяшчаў творы для самых маленькіх. Яны друкаваліся такім чынам, што, склаўшы старонкі некалькі разоў і разрэзаўшы іх, можна было атрымаць маленькую кніжачку. Гэтым жа разам (маецца на ўвазе чарговы, сёмы за сёлетні год нумар) кніжка прапануецца фарматам самой «Пралескі» і немалая, а ажно шаснаццаць старонак. Называецца яна «Азбукоўнік». Аўтар У. Ягоўдзік, а малюнкі Ю. Струкава.**

**Астатнія ж матэрыялы традыцыйна «пралескаўскія». Тэматыка іх адна: усё тое, што садзейнічае нацыянальнаму Адраджэнню, спрыяе выхаванню дзетак у духу беларускасці. Галоўны рэдактар А. Сачанка выступае з чарговым «лістом рэдактара» — «Загадкі «страшэннай адлегласці». Якім быць нацыянальнаму дзіцячаму саду? Над гэтай праблемай разважае інспектар упраўлення дашкольнага выхавання Міністэрства асветы А. Маслава — «Усвядоміць сваё месца». Намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Народная асвета» У. Якубовіч расказвае пра гэтае выданне, якому споўнілася 70 гадоў. У «Вясёлым вуллі» — творы М. Пазнякова, У. Якубовіча. Друкуецца казка братоў Грым «Як кошка з мышшу сябравалі».**

## ЛЕКЦЫІ, ДОСЛЕДЫ, ПЕРАКЛАДЫ...

**Выйшаў у свет чарговы нумар часопіса «Праваслаўе ў Беларусі і ў сьвеце». Адкрывае нумар благаславенне новаму праваслаўнаму выданню архіепіскапа Беластоцкага і Гданьскага Савы, паколькі часопіс з'яўляецца сумесным выданнем Беларускага праваслаўнага брацтва трох Віленскіх мучанікаў і Праваслаўнага брацтва Св. Кірыла і Мяфодзія ў Польшчы. Тут жа змешчаны багаслоўскі артыкул Уладыкі Савы «Значэнне праваслаўя ў жыцці сучаснага чалавека»... Пачынаючы з гэтага нумара на старонках часопіса будуць рэгулярна друкавацца спецыяльныя лекцыі па багаслоўю. Першая публікацыя такога кірунку — «Лекцыі з дагматычнага багаслоўя» епіскапа Навагрудскага і Лідскага Канстанціна (Гаранава) — рэктара Мінскай духоўнай семінарыі, выкладчыка дагматычнага багаслоўя. З нагоды 200-годдзя Мінскай епархіі і Мінскай духоўнай семінарыі часопіс друкуе вялікі царкоўна-гістарычны дослед выкладчыка семінарыі ігумена Нікана (Лысенкі) «Гісторыя Менскай духоўнай семінарыі і сучасны стан праваслаўнай духоўнай школы на Беларусі». Гэта падрабязны агляд 200-гадовага перыяду існавання семінарыі з глыбокім аналізам цяперашніх праблем духоўнай адукацыі на Беларусі...**

**З вялікай зацікаўленасцю і перажываннем назірае за працэсамі актыўнага адраджэння беларускай царкоўнай традыцыі, уцаркаўлення беларускай мовы, станаўлення брацкага руху на Беларусі наш суайчыннік — протапрэсвітэр Віталій Баравы, усю пасляваенную частку свайго жыцця правёўшы па-за межамі Бацькаўшчыны, у Маскве, а таксама ў Жэневе, як прадстаўнік Рускай праваслаўнай царквы ў Сусветнай Радзе Цэркваў. Думкі айца Віталія (выкладзеныя ў часопісе) адносна самых розных праяваў царкоўнага жыцця на Беларусі ўражваюць свежасцю, нечаканасцю, адметнымі высновамі... Толькі цяпер, праз дзесяцігоддзі, высвятляюцца для нас раней зусім невядомыя старонкі жыцця і дзейнасці многіх беларускіх праваслаўных святароў і архіерэеў у трагічныя для Царквы часы савецкай улады на Беларусі. Адна са славутых постацяў у царкоўнай гісторыі Беларусі пачатку 20-х гадоў — мітрапаліт Мінскі і Беларускі Мелхісэдэк. Вынікамі сваіх архіўных доследаў жыцця мітрапаліта Мелхісэдэка дзеліцца на старонках часопіса старэйшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АНБ Таццяна Процька. У рубрыцы «Пераклады» змешчаны пераклад на беларускую мову Акафіста святым мучанікам Віленскім Антонію, Іаану і Яўстафію, зроблены вядомым беларускім пісьменнікам і перакладчыкам Анатолем Клышкам. У гэтай жа рубрыцы — старонкі старажытнага Пацерыка «Істапомныя сказаньні пра падзьвіжніцтва сьвятых і блажэнных айцоў» у перакладзе Алеся Анціпенкі.**

**Аб мінулым і сучасным богаслужбовай пеўчай традыцыі на Беларусі разважае ў сваім артыкуле рэгент хору Беларускага праваслаўнага брацтва трох Віленскіх мучанікаў Ларыса Густава. Тут жа прыведзена зробленая ёю апрацоўка для чатырохгалосся фрагмента з Жыровіцкага ірмалагіёну XVI ст...**

**У рубрыцы «Прыхадскае жыццё» сваімі ўражаннямі аб наведанні беларускіх праваслаўных прыходаў Амерыкі дзеліцца настаяцель Петра-Паўлаўскага сабора г. Мінска протаіерэй Георгій Латушка, які ўвосені 1993 г. быў запрошаны на святкаванне 35-гадовага юбілею існавання прыхода Св. Юрыя ў Чыкага... Як заўсёды, змешчаны вершы праваслаўных паэтаў, фотаздымкі, прысвечаныя важным падзеям праваслаўнага жыцця Беларусі, анонс матэрыялаў наступнага нумара.**

Т. МАТРУНЧЫК



Сакрат ЯНОВІЧ

# ПАГОНЯ МІЖ ДВУМА АРЛАМІ

## БЕЛАРУСКІ ЛІТАРАТУРНЫ РУХ У СУЧАСНАЙ ПОЛЬШЧЫ

Беларускі літаратурны рух у сучаснай Польшчы — гэта гістарычна непазбежная з'ява. Абумоўлена яна перш за ўсё існаваннем беларускага рэгіёна з даволі шматлікім і кампактна пражываючым насельніцтвам у цэнтральнай ды ўсходняй паласе Беластоцкага ваяводства, уздоўж дзяржаўнай мяжы з Рэспублікай Беларусь. Фактарам, які знакаміта стымуляваў узнікненне руху і яго развіццё да ўзроўню прафесіяналізму, трэба лічыць хуткае фармаванне ў пасляваенны час сеткі пачатковых і сярэдніх нацыянальных школаў, а затым структураў грамадска-культурнай дзейнасці і друку.

Разглядаючы з перспектывы паўвечча працэс станаўлення беларускай літаратурнай творчасці ва ўмовах пасляялцінскай Польшчы, адрозніваеш у ім тры фазы, якія вызначаюць гады 1944—56, чатырнаццацігоддзе да 1970, і апошняе чвэрцьстагоддзе. Асабліва пераломнымі былі 1956 г. і 1970 г. Неабходна лучыць тое з датай утварэння тыднёвіка «Ніва», пасля чаго — на працягу шасцідзесятых — паступова выкрышталізоўвалася невялікае асяроддзе прафесійных аўтараў.

Першая фаза характарызуецца адсутнасцю якой-колечы арганізаванасці сярод творцаў, іх нізкім інтэлектуальным узроўнем, і — натуральна — фальклорным рыфмаванствам. Такая творчасць кваліфікуецца не больш як у дзялянку літаратурных дакументаў эпохі. Не магла яна сур'ёзным чынам паўплываць на з'яўленне таленавітай моладзі хаця б і па той прычыне, што бытавала не шырэй чымсьці ў сямейных колах, не знаходзячы папулярызацыі ў друкаваных крыніцах або, прынамсі, у тадышняй грамадскай дзейнасці. Да ліку такіх сялянскіх паэтаў належыць Куршэль з Сукавічаў, што на Крыншчыне, Юравец з Грыбаўцаў каля Гарадка, Асіповіч з Тапалянаў, што паблізу Міхалова (псеўданім Андрэй Сошка), і некалькі іншых, не так пладавітых, пакінуўшых па сабе літаральна пару вершаў, нагадваючых т. зв. спрытныя жарты вясельных сватоў. Як сведчыць Віктар Швед, мела тады месца і аказійная вучнёўская творчасць, у пераважнай меры прымеркаваная да нейкіх палітычных гадавінаў ці конкурсаў.

Усе вершапісцы, у сталым ужо ўзросце, выявіліся пасля на старонках маладое «Нівы» ў 56-ым. Іхнія скромныя запасы неўзабаве вычарпаліся, на далейшыя не хапала пораху, ды і апублікаванае імі наклікала падазрэнні ў плагіяце, прыкладам, пад Міхася Васілька або папулярнай у даваенне «Маланкі».

Рэдакцыю «Нівы» шчасліва ўзначаліў Юры Ваўкавыцкі, нядаўні выпускнік горкаўскага інстытута ў Маскве і пачынаючы пісьменнік родам з небезвядомае Белавежы. У тую пару ўяўляў ён сабою унікальную адзінку не толькі з усё яшчэ рэдкай вышэйшай адукацыяй, але і з веданнем літаратурнай справы. Роўнага яму нікога не было. Варта дадаць для кантэксту, што не іначай складвалася сітуацыя і ў польскай частцы культурных сфераў Беластока. Адрэдагаваны Ваўкавыцкім альманах «Рунь», выпушчаны накшталт брашуры ў 1959 годзе, нарабіў сенсацыі як найпершая паэтычная кніжка ў гісторыі горада і наогул рэгіёна! Гэтак жа шумна сустрэта ўтварэнне ім годам раней Беларускага літаратурнага аб'яднання. Погалас аб тым дайшоў не да адных Менску і Варшавы; пісала пра тыя факты маскоўская «Литературная газета» і нават нехта на «імперыялістычным» Захадзе, што ўспрымалася з некаторай панікай у пасясталінскую замаразь.

Паслейшым «белавежцам», тым не менш, няблага пашанцавала: не паспыталі яны занадта савецкага выхавання. У польскай дзяржаве характарызавалася яно выразнай шызафрэнічнасцю, публікавалася практычна ўсё, ідэалагічны тэрор адчуваўся не часцей за даносы на канкрэтныя творы, пільнасць цэнзуры спарадычна датычыла паэтаў, горай пачуваліся празаікі, фармальна бліжэйшыя да публіцыстаў.

Пачатковае літаратурнае аб'яднанне цяжка назваць арганізацыяй, хутчэй гэта быў самаадукацыйны гурток. Адыграла яно, аднак, капітальную ролю ў выяўленні талентаў, галоўным чынам шляхам рэгулярных семінараў. Час ад часу прымалі ў іх удзел менскія літаратуразнаўцы Тарасаў і Лазарук, што бывалі ў Беластоку як выкладчыкі на настаўніцкім факультэце беларускай філалогіі. Адначасна — з чэрвеня таго ж 58-га — наладжаны выпуск штомесячнай «Літаратурнай старонкі» ў «Ніве», якая трымаецца па сённяшні дзень, перасягнуўшы за чатырыста нумароў і стойка вытрымаўшы нават доўгія перыяды заняпаду ў арганізацыйнай актыўнасці самое «Белавежы». Яе значэнне проста немагчыма пераацаніць, калі памятаем пра тую банальную праўду, што аўтару патрэбны пах друкарскай фарбы. «Літаратурная старонка» — гэта передпакой у салон. Яе рэдактары, якія з часам дастаткова выраслі творча, каб пераняць кіраўніцтва з рук Ваўкавыцкага, цалкам здавальняюча давалі сабе раду, фільтруючы паток графаманіі.

Калі ўвосень 1962 г. аб'яднанне метафарычна назвалася: «Белавежа», выходзіла яно ўжо за межы паэтычнага монажанру; паявіліся — проза, драма, байка, эсэ, крытыка. Веданне нацыянальнай літаратуры настолькі пашырылася, што адбыўся пераход ад эмацыянальнага песнярства ў глыб чалавечае душы, ад інстынктыўнага пісьменства ў свядомае змаганне з матэрыяй слова. Для ілюстрацыі духоўнай тае аўры скажу, што ў месяцы інаўгурацыйных нумароў «Нівы» шмат хто ўпершыню пачуў пра Янку Купалу... Беларускае адраджэнне ў Беластоцкім краі рэалізавалася надзвычай марудна, намаганнямі ўсяго некалькіх дава-

***Развітваючыся назаўсёды з сябрамі і блізкімі, мы нязменна прысягаем помніць іх вечна...***

***Але мінае час — і абяцанні нашы забываюцца, успаміны блякнуць... І каб яны не змарнелі дашчэнту, патрэбна дзеянне.***

***Выдавецтва «Мастацкая літаратура» рыхтуе да выдання 2-томнік «Выбранага» Жэні Янішчыц — яе лірыкі, лістоў, а таксама вершаў, прысвечаных сябрамі-паэтамі яе незабыўнаму вобразу, успамінаў усіх, хто ведаў Жэню, хто сябраваў з ёю і любіў яе.***

***На заклік выдавецтва «Мастацкая літаратура» і ўкладальніка Сяргея Панізніка адгукваецца Алена ВАСІЛЕВІЧ.***

# ЖЭНЯ, ЖЭНЕЧКА, ДЗЕ ТЫ?!.

Калі б я была мастаком, я адмовілася б надаваць партрэту Жэні Янішчыц падкрэслена ўяўную значнасць асобы. Адмовілася б і ад традыцыйных атрыбутаў, якімі здаўна — не толькі Вялікіх — вянчаюць абраннікаў паэтычнага Алімпу. Муза з Лірай у вешчых пярстах. За спіной Крылы, што ўзносяць у паднебныя вышыні натхнення...

Я намалявала б зусім іншы Жэнін партрэт:

**Не воблачка, а проста аблачынка**
**Загадкава плыве над галавой.**
**Смяюся я:**
**вясёлая дзяўчынка,**
**Як матылёк,**
**ляціць над кладкай той...**
**Як добра ёй журыцца беспрычынна!**
**Да твару ёй і лета і зіма...**
**Ўсміхнуся я:**
**яшчэ бяжыць дзяўчынка**
**Па кладцы той,**
**якой даўно няма.**

... Бяжыць, насустрач ёй раскрывае абдымкі бясконцы, акрылены свет харастваа, дабрыні, людского даверу і спагады. І свет гэты ў грудзях дзяўчынкі смяецца, спявае, журыцца. І кладзецца, складаецца ў радкі вершаў. Яшчэ толькі ледзь адчутых, толькі-толькі здзіўлена вымаўленых услых... Ім таксама хочацца жыцця і святу!

... І першай пачуе іх, вядома ж, маці. Маці спачатку падзівіцца са свае разумнае дачушкі. Пацешыцца, якая яна ў яе здольная. Ды не маючы вельмі часу слухаць, што там яшчэ прыйшло ў бесклапотную галаву, яшчэ і насварыцца:

— От, як абы-што выдумляць, лепей памажы мне на агародзе. Работы вунь — мора!

... Быў, вядома ж, поспех і гонар у школе. На розных раённых алімпіядах. Такіх вершаў не пісаў ніхто, не толькі з вучняў, але не чутно было, каб і самі настаўнікі.

...Пасля самых першых публікацый у «ЛіМе» і ў рэспубліканскіх часопісах сталічныя крытыкі таксама ў адзін голас абвясцілі нараджэнне маладога адметнага паэтычнага таленту.

Так па-юначы акрылена і радасна, ступіла ў беларускую літаратуру Жэня Янішчыц. Лёс не пашкадаваў ёй ні вядомасці, ні гучнай славы, ні стрэч і дарог, пра якія можна было толькі марыць. І зайздросціць. (Асабліва сябрам і добрым таварышкам-сяброўкам...) Не размінулася, не абышла бокам яе і Доля: паслала, падаравала ёй бяздоннае Каханне. Праўда, гэтак жа, як шчодра сыпала з поўнага прыполу, гэтак, па-жаночы, і адбірала, расчароўвала, развейвала па вей-ветру. Як нажом, да крыві, рэзала. Разбівала на адчайнай хвалі лодачку:

**Што за вогненае шчасце:**
**Скошан лёс, як сенакос.**
**Да цябе мне не прыпасці —**
**Прыпадаю да нябёс.**

...Вершы Жэні Янішчыц, як і сама яна, былі мне вельмі блізкія. І зразумелыя. Яна была з тых маіх паэтаў, чые кнігі заўсёды ляжаць на маёй «угалоўнай» тумбачцы — для зручнасці, для позняга вячэрняга чытання. Іх перачытваю я па некалькі разоў. Потым адкладваю, адыходжу ад іх, адвыкаю... Даю ім таксама адпачыць ад сябе... А потым — па часе — вяртаюся да іх зноў, з такім адчуваннем, нібыта мне зноў прызначана спатканне, якога я даўно чакаю.

У такія позні вечары — у тыя гады я жыла на Паркавай магістралі, жыла адна, а Жэня з сынам жыла на Ульянаўскай, 4, — у нас былі даволі частыя, доўгія тэлефонныя стрэчы.

— Добры вечар! Прабачце... Ці не позна — у паўноч стукаюся ў вашу хату?..

— Добры вечар, Жэнечка! Якраз самы найлепшы час — для летуценнікаў і тых, хто позна не спіць.

(Божа, як усё мяняецца — і час, і жыццё! Як мала іх засталося — у маім жыцці — і званкоў прыветных, уцешных. Адыходзяць, як і не было іх ніколі, і «паўночы» тыя, сагрэтыя колішняй чулай увагай і патрэбай сказаць і пачуць у адказ патрэбныя словы. Як змянілася я сама!..)

...Часам у Жэні была неабходнасць прачытаць новыя свае вершы. Якія яшчэ толькі прараслі ў яе душы і на паперы яшчэ пакуль не заўсёды знаходзілі сваё адзіна неабходнае месца. Паэтам абавязкова патрэбны слу-

# КАРОТКІЯ АПАВЯДАННІ

Іван ЧЫГРЫНАЎ



Вось у той час і завёў Мішка Бычыхін сабе шчанюка. Але назваў зусім не па-сабачы. Чамусьці прыйшло яму ў голаў пагуляць у палітыку ды назваць шчанюка... Як бы вы думалі? Не больш, не менш, як «Ціта-Ранкавіч». Была такая кліка, па савецкім меркаванні, у Югаславіі. Шчанюк тым часам рос і вырас. Усе ў вёсцы ведалі яго, часта знарок клікалі, каб адзываўся, а найбольш смяяліся. Гы-гы ды га-га... І смяяліся ажно да таго года, як паехаў Хрушчоў да Ціта з мірам. Здаецца, усё стала на сваё месца. Ні ў газетах, ні па радыё кіраўніка Югаславіі не абзывалі больш рознымі брыдкімі словамі. Маўляў, дружба, брацтва!.. Словам, дасюль мы памыляліся. Але ж па нашай вёсцы ўсё яшчэ бегае сабака з мянушкай «Ціта-Ранкавіч». Псуе ўсю справу, бо вяскоўцы па-ранейшаму моцна смяюцца. А тым часам пакутуе міжнародная палітыка!.. Зразумела, што неабходна было неяк выходзіць са становішча. І вось прыходзіць да Мішкі старшыня сельсавета, быў у нас тады Шапляк. Цяпер я не ведаю, ці гэта ў яго такое прозвішча было, ці, можа, таксама мянушка. Дык Шапляк і кажа Мішку: «Та забі свайго сабаку, альбо прадай каму ў іншую вёску». А Мішку шкада сабакі. Ён і так, ён і гэтак. Ды і маці ягоная лямантуе — ёй таксама шкада сабаку. Тады старшыня сельсавета выходзіць з другой прапановай, маўляў, прывучы свайго сабаку да новага імя. «А дзякуй жа табе, таварыш Шапляк!» — ледзь не ў ногі кінулася старшыні сельсавета Бычыха. На тым і разышліся. Вядомая справа, што Мішка пачаў перавучваць свайго сабаку. Той ужо нават адзываўся на новае імя, быццам і праўда забыўся пра Ціта і Ранкавіча. Але дзе там! Толькі Мішка выпусціў яго з двара, як хтосьці з вясковых падшыванцаў вазьмі ды назаві з-за плота сабаку па-старому: Ціта-Ранкавіч! А той адразу — гаў-гаў!.. І ўся Мішкава навука, як кажуць, марна пайшла. Сабака зноў толькі і адзываецца, што на старое імя!.. Даведаўся старшыня сельсавета пра гэта, паклікаў участковага міліцыянера Хваброва. Так і так, кажа, шкодзіць нам Бычыхін сабака, падрывае міжнародную палітыку. Ну а Хваброву нібыта аднаго гэтага і не хапала. Шась на двор да Бычыхі, заве Мішку. Тупае на яго, крычыць. Мы, вясковыя хлапчукі, сведкамі. А сабакі як не было на двары, так і няма. Недзе бегае. Нарэшце прыгразіў міліцыянер — заўтра, маўляў, сабака каб стаяў тут вось, ля плота, прывязаны!

На другі дзень раніца выдалася зверху светлая, а злашча — ціхая, з панізовым туманам, які нягуста слаўся паміж лесам і вёскай. Я яшчэ спаў, як пачуў праз сон стрэл. Ён кальнуў мне ў сэрца. І я доўга ляжаў пасля яго на ложку, чамусьці баяўся ўставаць. Бадай, ад таго, што ведаў — страляў недзе міліцыянер Хваброў і цэліў у Бычыхінага сабаку...

А ўдзень высветлілася — канец свой Ціта-Ранкавіч знайшоў на глінішчы, што паміж нашай вёскай і былой панскай слабодкай. З таго дня прамінула нямала часу, але затое цяпер я пэўна ўжо ведаю, што палітыка часцей звязана з брудам, крывёй!.. І ад яе пакутуюць нават сабакі!..

## ШПІЁН

Ён выйшаў з балота да цяпла — так завецца ў нашай вёсцы вогнішча, калі мы былі на начлезе. Прызнацца, сам я вадзіць коні на ноч за вёску не любіў, не меў вялікай ахвоты, гэты абавязак ляжаў заўсёды на старэйшым браце Міколе, але праімчаць на скакуне ніколі не адмаўляўся, балазе, конь у часе нямецкай акупацыі ў нас быў. Тады амаль у ва ўсіх у вёсцы хапала коні — альбо на два двары давалі, альбо на адзін. Гэта залежала ад таго, як каму пашанцавала, калі дзялілі калгас. На нашу сям'ю жэрабя не кідалі. Лічылася, што нам належыць сельсавецкая кабыла, якая стаяла ў нашай пуні. А каб больш зразумела стала, дадам: бацька да вайны працаваў старшынёй мясцовага Савета, ездзіў на гэтай кабыле ды так і пакінуў яе на нашым двары, калі адыходзіў з адступаючай арміяй на ўсход. Ну а пакуль што да чаго — раптам Саветы хутка вернуцца, у нас кабылу не забіралі. Яе вось і вадзілі мы на начлег.

Дык тады з балота да цяпла выйшаў... чорны бусел, ці, па-мясцоваму, кроква. Гэты від буслоў будуе свае гнёзды далёка ад чалавечага жытла, таму не кожнаму яго даводзілася бачыць. Прынамсі, з усіх нас, хто вадзіў у тую ноч коні на папас, пазнаў чорнага бусла адзін Санька Брылеў. Мы тым часам здзіўлены былі не адвагай чорнай птушкі, не, збянтэжыла нас кольца, якое насіла яна на левай назе, — жоўтае і бліскучае, усё роўна як зробленае з золата. Іначай мы і не падумалі. Канечне ж, з золата! Цяпер я ўжо не помню, хто першы з малых начлежнікаў шапнуў: шпіён... Галоўнае, што ніхто з нас не ўсумніўся ў гэтым, бо вельмі шмат чулі перад вайной, што нашы ворагі, гэта значыць, ворагі СССР, выкарыстоўвалі ў мэтах шпіянажу сабак, зайцоў, словам, каго толькі можна было. Пра гэта вершы паэты складалі, пісьменнікі ў кніжках расказвалі. А тут сама вайна!.. Але чый шпіён? Наш, савецкі, ці нямецкі? Урэшце, усе мы прыйшлі да думкі, што напэўна не наш, бо нездарма ж на кольцы ў яго відаць былі чужыя літары.

Праганяць чорнага бусла ад цяпла, вядома, мы не адважваліся, адно чужаліся яго, акурат сапраўды баяліся. У тую раніцу, калі ён першы раз з'явіўся да цяпла, мы пакідалі начлег з нейкай маўклівам невытлумачальнай радасцю. Думаючы, што пакідаем нечаканага прышэльца назаўсёды. Больш таго, у вёсцы ні ў той дзень, ні на другі стараліся не ўспамінаць пра яго. Ну і няхай, што шпіён, навошта, каб яшчэ ў каго галава балела! На другую ноч мы вадзілі коней на Зінкевічаў луг, які к таму часу яшчэ не быў заторкнуты. Усё абышлося без здарэнняў, можа, апрача таго, што Сычава карова, ужо ўранні, прапарола рогам бруха Цітковаму каню. Каб апынуцца падалей ад кароў, якіх кожнага дня ганялі на луг, на наступную ноч мы павялі коні ў Замасточча, да таго самага балота. І як жа былі здзіўлены, калі чоны бусел са сваім загадкавым кольцам на чырвонай назе зноў прытупаў да нас, як толькі задыміла вогнішча. Гэты раз ён ужо старанна падабраў крошкі, што засталіся пасля нашай вячэры. Але цяпер мы нарэшце заўважылі і тое, што чорная птушка дужа нямоглая. Яе душыла нейкая хвароба. І таму птушка гарнулася да людзей, якіх дасюль старанілася, забіраючыся ў лясныя нетры. Дзіўна толькі, як у яе хапіла сілаў прыляцець сюды? Вядома, шкада было птушкі, але мы не перасталі чужацца яе, дарма, што не праганялі ад сябе. Так і засталася на ёй хлапчуковая падазронасць у шпіянажы. Не трэба забываць, што мы былі дзеці вайны і жылі не толькі ва ўмовах шпіёнаманіі, але і ва ўмовах узросшых забабонаў.

Памёр чорны бусел улетку. З тым жа кольцам на сваёй чырвонай назе. І толькі доўга пасля я зразумеў, што кольца з чужымі літарамі на ягоную нагу надзелі недзе вучоныя. Няйначай, чакалі птушку ў тым месцы, дзе яна была акальцавана.

## ДЫРЭКТАР ДЗІЦЯЧАГА ДОМА

Між тым, сказаць, што ўсё маё дзяцінства прыпала на вайну, нельга. Хапіла яго яшчэ і на пасляваенны час. Але яго, той час, чамусьці ўспамінаеш цяпер, куды радзей, дарма што падзеі з вайны, як правіла, асмужаны трагічнасцю. Адным часам самай сапраўднай, другім — акурат камічнай. Вось паслухайце.

Вайна па нашым краі на ўсход, а дакладней, на паўднёвы ўсход, пракацілася ў сярэдзіне жніўня сорак першага года, і нейкі час, мусіць, месяца паўтара не было відаць ні немцаў, ні чырвоных. Аднак затым зноў пачаліся вайсковыя пераходы праз нашу вёску, бо зрушыліся франты і ў цэнтральнай Расіі, і на Украіне. Нямецкія калоны, пешыя і грузавыя, усё роўна як знарок снавалі па галоўнай вуліцы ўдзень і ўначы. Зразумела, што некаторыя спыняліся, часцей, каб абначыцца ў хатах. Здаралася, што і ўдзень дымілі кухні паміж вясковых гумнаў, калі наставаў час абеду ці сняданку. Цяпер можа здасца каму неверагодным, але немцы з франтавых часцей, бывала, кармілі нас, дзяцей, недаедкамі, балазе, у паходных кухнях заўсёды заставалася рэшта якога-небудзь варыва. Асабліва смачная ў іх выходзіла прасяная каша, да якой і ў нашай вёсцы людзі былі прывучаны, бо сеялі гэты злак і ў полі, і на лядах. Праўда, дзеля справядлівасці варта адзначыць, што ў тую, першую ваенную восень, мы яшчэ не галадалі, — падзяліўшы калгас, жылі аднаасобна і, можна сказаць, заможна, дарма што не ставала солі, газы, запалак, таму ад немцаў іхнюю ежу бралі, як чужыя прысмакі. Помню, аднойчы мне асабіста нямецкі салдат на іхнім прывале ў нашай вёсцы даў галанскага сыру пакаштаваць, якога я дагэтуль нават не бачыў, не тое, што еў. Таму мне падалося, што частуе ён мяне мылам... Узяў я ў рот ягоны сыр і тут жа выплюнуў. Зразумелая справа, што немец абразіўся і доўга крычаў на сваёй незразумелай мне мове...

У першую ваенную восень вяскоўцы мае шмат працавалі. Здаецца, ні да таго, ні пасля гэтакай зацятасці ў працы не назіралася больш, прынамсі, на маёй памяці. Гумны стаялі поўныя збожжа ў снапах, яго належала сушыць ды малаціць, а на вёску ні адной малатарні. Сушылі снапы ў ёўнях, малацілі на таках, што былі ў кожным гумне. У часе малацьбы хаты абязлюдзьвалі, нават зусім старым знаходзіўся занятак на гумнах, хоць бы падтрымліваць агонь пад ёўнямі. Дома заставаліся адны дзеці. Але бацькі імкнуліся і нас неяк уладкаваць. У нашым канцы вёскі, напрыклад, зводзілі дзяцей у нашу хату, акурат у дзіцячы сад. Вядома, не грудных, а тых, што ўжо маглі самі стаяць і рухацца на нагах. Больш за ўсё збіралася да нас маіх аднагодкаў і аднагодкаў маіх сёстраў і малодшага брата. Двох старэйшых братоў маці заўсёды вадзіла на гумно, дзе ім таксама была праца. Вяскоўцы ў нашым канцы вёскі нават жартавалі — у Гаўрылішыхі адкрылі новы дзіцячы сад, балазе, стары, што быў да вайны ў калгасе, даўно не дзейнічаў. Ну а я ў тым новым дзіцячым садзе з'яўляўся адным часам і дырэктарам, і выхавальнікам, і ахоўнікам. Словам, увесь клопат ляжаў на мне, няйначай, суседзі сапраўды спадзяваліся на мяне. Але не адным гэтым тлумачыўся мой аўтарытэт. Справа ў тым, што ў нашай хаце вісеў на сцяне партрэт Гітлера. Прывёз яго нам наш кум паліцай Хвадзей. «Пакольکі твой мужык камуніст, — сказаў ён нашай маці, — то хутчэй за ўсё немцы пачнуць расправу з вас. Таму вешай гэты партрэт у сябе ў хаце, можа, ён калі ўратуе вас». Маці паслухалася паліцая, узяла партрэт, а мы прыклеілі яго на сцяну. Дзіўна, але суседзі таксама, відаць, ускладвалі надзеі на партрэт — не могуць жа немцы пры відзе свайго правадыра штосьці рабіць благое. Так яны і спадзяваліся: то на мяне, то на партрэт Гітлера. І вось аднойчы заходзіць у хату нямецкі афіцэр. Убачыў на сцяне свайго правадыра, кліча пальцам да сябе Мішку Бычыхіна, пытае па-расейску — хто гэта? А той ці то разгубіўся, ці то зразумець не мог, што ад яго чакае афіцэр, пачаў чамусьці рагатаць у адказ. Ды так нядобра, быццам спрабаваў паздзекавацца і над запытаннем адным часам і над партрэтам. Немец раззлаваўся раптам, пачаў тупаць ботамі, крычаць. Ужо не помню, якія словы ён выкрыкваў, аднак тады я спалохаўся. Выйшаў наперад, загарадзіў Мішку і сказаў, як вучыла маці: «Гэта наш аслабаніцель Адольф Гітлер». Заступніцтва маё, а злашча, няйначай, хлапчукоўская кемлівасць мая падзейнічалі на немца. Ён тут жа адпусціўся душой, заўсміхаўся, больш за тое, пачаў раздаваць дзецям цукеркі, якія ляжалі ў яго ў кішэні.

Вяскоўцы мае пасля доўга хвалілі мяне:

— Каб не Гаўрылішын Іван, то яшчэ невядома, што было б з нашымі дзецьмі!

## ПОП ДВОРСКІ

У маім рамане «Вяртанне да віны», ужо напаследак, ёсць такія радкі: «А ў Бабінавічах тым часам мясцовыя паліцаі пад камандаю Гуфельда расстрэльвалі яўрэяў. Кроў мяшалася з вадой і цякла па рацэ Чарняўцы насустрач верамейкаўскаму хроснаму абозу. Ад яе на лузе шалелі каровы...»

Гэтак сапраўды было. Але не ў Бабінавічах, а ў Саматэвічах. І хросны абоз ехаў не з Верамеек, а з Вялікага Бору. Нас, велікаборцаў, у той дзень хрысцілі. Раптам з мястэчка прыйшоў погалас, што нехрышчоных дзяцей будуць расстрэльваць. А нехрысцяў перад вайной па вёсках было шмат. Па-першае, царкву бальшавікі ў Саматэвічах закрылі, па-другое, і самі людзі, гэта значыць, нашы бацькі ахлялі да гэтай справы — хто па ідэйных меркаваннях, хто па службовых, хто проста па сваёй абыякавасці.

І вось у сорак другім годзе, здаецца, недзе па Іллі павезлі нас у мястэчка хрысціць. Сапраўды, цэлым абозам. Як расстрэльвалі немцы прывезеных аднекуль яўрэяў, мы, велікаборцы, ужо не бачылі; іх знішчылі яшчэ да таго, як наш абоз уехаў у мястэчка. Аднак местачкоўцы былі на месцы расстрэлу і ўсё бачылі. Зразумела, што і расказвалі іншым. Але я пакуль не пра гэта.

Царква ў Саматэвічах хоць і была тады ўжо адчынена, але хрысцілі нас у пустых дамах местачковых яўрэяў, якія падаліся ў бежанцы. Помню я, як трымаў на руках мяне, сямігадовага хлопца, перад папом Дворскім хросны бацька, а мой дзядзька Хвядос. Помню, як бацюхна маліўся, мазаў нас чымсьці, даваў піць нейкую вадкасць. Пасля, ужо ў дарослым стане, мне даводзіліся бываць у цэрквах пры хрышчэнні дзяцей, але поп Дворскі, здаецца, рабіў усё не так, як цяпер...

Папа гэтага мужыкі знайшлі недзе ў Чэрыкаве. Прытым з вялікай цяжкасцю, бо мала іх, святароў, засталося тады к пачатку вайны: адны былі сасланы, другія знішчаны, трэція запалоханы... Нашым мужыкам, можна сказаць, пашанцавала, і мы, дзеці, такім чынам, былі пахрышчаны. Прынамсі, далей жыць дазвалялася без страху, што цябе заб'юць, як нехрысця. Ну а ў сорак трэцім на паўднёвы ўсход Беларусі прыйшло вызваленне. Праз некалькі год я прыйшоў у Саматэвічы вучыцца ў восьмы клас. Паколькі местачковая школа ў вайну згарэла, вучылі дзяцей у тых жа яўрэйскіх дамах, што засталіся без гаспадароў, бо з бежанцаў чамусьці таксама мала хто з іх вярнуўся. І трэба было здарыцца так, што восьмы клас у тую восень займаўся ў тым жа доме, дзе мяне хрысцілі. І парта, за якую мяне пасадзілі, стаяла якраз на тым месцы, дзе хросны бацька трымаў мяне на руках...

У Саматэвіцкую школу я хадзіў за восем кіламетраў. Хадзіў адзін з усяе вёскі. Хадзіў праз лес, яшчэ далёка да світанку, бо першы ўрок пачынаўся, здаецца, а палове восьмай, і мяне ведалі не толькі зладзеі з навакольных вёсак, якім заўсёды знаходзіліся справы па начах, але і ваўкі... Тут можна было б многа расказаць пра ўсякія цікавыя выпадкі, здарэнні. Ды няхай, можа, другім разам.

Дык вось. Вяртаюся я зімовай парой са школы аднаго разу, а насустрач мне поп Дворскі. Глядзіць на мяне, на мае лапці... Тады гаворыць: «Адважны ты, хлопча, ходзіш адзін з таго забесядскага боку, а ў лапцях!.. Ці ёсць у вас якая-небудзь скура на боты. Ты папытайся ў маці, а я табе боты пашыю». Пасля вайны царква зноў не працавала, і я не ведаў, ці жыве ў Саматэвічах поп, які хрысціў нас некалі. А вось аказалася — жыве! Жыве, працуе ў шавецкай майстэрні, цяпер напрошваецца пашыць мне боты. Мусіць, шкада яму стала чалавечыка ў лапцях, які кожнага дня цярпліва адмервае туды і сюды свае восем кіламетраў увосень, і ўзімку, і ўвесну... Я ўжо тады ведаў, што ў нас ёсць

(Працяг на стар. 10)

## ПАКУТНІК ЗА ВЕРУ І БАЦЬКАЎШЧЫНУ

**На сённяшні дзень немагчыма дакладна сказаць, дзе знайшлі вечны спачын барацьбіты за нацыянальную ідэю, што ва ўмовах таталітарнай сістэмы сталі пакутнікамі. Не адны ж, на жаль, на тэрыторыі былога Савецкага Саюза Курапаты. І не толькі на Беларусі. Ёсць яны і на Украіне, на Львоўшчыне таксама.**

**Бадай, там пахаваны недзе і архімадрыт Фабіян Абрантовіч. Ён жа ў 1939 годзе пасля ўз'яднання Украіны быў кінуты ў Львоўскі астрог, абвінавачаны ў шпіянажы на карысць Японіі, падвергнуўся самым жорсткім катаванням. Наконт гэтага другі пакутнік і барацьбіт за нацыянальную ідэю айцец Язэп Германовіч, ён жа пісьменнік Вінцук Адважны, у сваёй дакументальнай кнізе «Кітай-Сібір-Масква» сведчыць наступнае: «На следстве бальшавікі ўжывалі да айца найвышэйшы нумар сваёй інквізіцыі — аж да іголак пад пазногці і ўлівання вады ў лёгкія, каб прызнаўся да закідаў, якія ім былі патрэбныя. Аднак а. Фабіян Абрантовіч не паддаўся — яго зламілі толькі фізічна, а пасля зліквідавалі як сапраўднага Мучаніка за веру й Бацькаўшчыну».**

**Хто ж ён, Ф. Абрантовіч? Родам з Наваградку, дзе ўпершыню зірнуў на свет 14 верасня 1884 года. Скончыў семінарыю і духоўную акадэмію ў Пецярбурзе, атрымаў навуковую ступень магістра тэалогіі. Працягваў вучобу ў Лювенскім універсітэце (Бельгія), стаў доктарам філасофіі.**

**Па вяртанні ў Пецярбург, быў абраны прафесарам каталіцкай семінарыі, стаў ініцыятарам правядзення ў 1917 годзе ў Мінску З'езда беларускага каталіцкага духавенства, стаяў ля вытокаў Беларускай Хрысціянскай Злучнасці (пазней — Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя). Шмат рабіў для пашырэння беларускага нацыянальнага руху, у тым ліку і сярод студэнтаў Духоўнай акадэміі ў Пецярбурзе. Калі ў канцы 1918 года Ф. Абрантовіча прызначылі рэктарам Мінскай семінарыі, якая на той час адкрылася, дамогся дазволу на ўжыванне беларускай мовы ў дадатковай літургіі.**

**У 1929 годзе Ф. Абрантовіч уступіў у навіцыят айцоў Марыянаў, займаўся выкладчыцкай дзейнасцю ў гімназіі, напісаў філасофска-тэалагічныя нарысы «Бог» і «Чалавек», што выйшлі ў Вільні ў бібліятэцы часопіса «Хрысціянская думка». У 1931 годзе Ф. Абрантовіча прызначылі ардынарыем (кіраўніком епархіі) рускіх грэка-каталікоў у Кітаі і да 1938 года, да ад'езду ў Рым для ўдзелу ў генеральнай капітуле айцоў Марыянаў, працаваў у Харбіне.**

**Вяртаючыся з Рыма, прыехаў на Беларусь, дзе і напаткаў яго трагічны лёс. Калі памёр айцец архімандрыт Ф. Абрантовіч дакладна сказаць немагчыма. І ўвогуле — ці сваёй смерцю?**

**110-ыя ўгодкі з дня нараджэння яго — яшчэ адна магчымасць прыгадаць адданага барацьбіта і быццам бы пакутніка за веру і Бацькаўшчыну.**

## ВАЯРАМ СТАХВАНА ГРАБОЎСКАГА

**Шырацца мерапрыемствы, звязаныя з 200-годдзем паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Як у гэтыя дні не ўспомніць людзей, што два стагоддзі назад змагаліся за нацыянальнае і сацыяльнае разняволенне, «за нашу і вашу волю». Адным з іх быў і Стахван Грабоўскі. Менавіта ваяры, якіх аб'яднаў гэты мужны і сумленны чалавек, 23—24 жніўня 1794 года на месцы сённяшняй вёскі Кунцаўшчына пад Мінскам прымалі бой з расійскім войскам.**

**Роўна праз дзвесце гадоў 24 жніўня 1994 года ў вёсцы Кунцаўшчына сабраліся прыхільнікі нацыянальнага Адраджэння, каб ушанаваць памяць змагароў за Бацькаўшчыну. Ініцыятарам мерапрыемства выступіў Нацыянальны камітэт па святкаванню 200-х угодкаў паўстання Т. Касцюшкі.**

**Быў адкрыты сціплы помнік паўстанцам, створаны па эскізе М. Купавы С. Бандалевічам і Х. Ладуцькам. На помніку надпіс: «Ваярам Стахвана Грабоўскага, паўстанцам 1794 года». Помнік асвяцілі настаяцель Івянецкай царквы айцец Віктар і айцец Я. Матусевіч. Яны адслужылі паніхіду па ўсіх, хто на працягу стагоддзяў загінуў за нацыянальную незалежнасць Беларусі, прагучала і малітва за беларускі народ.**

**На мітынгу па ўшанаванні ваяроў выступілі народны дэпутат Рэспублікі Беларусь З. Пазняк, старшыня Скарынаўскага цэнтра А. Мальдзіс, старшыня Нацыянальнага камітэта па святкаванні 200-х угодкаў паўстання М. Купава, доктар гістарычных навук А. Грыцкевіч, кандыдат гістарычных навук У. Емяльянчык, прадстаўнік БЗВ А. Статкевіч.**

**Свае песні выканаў бард К. Герашчанка.**

На атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі

# ПРА ДУХОЎНАСЦЬ, ПРА ШЛЯХ ДА ЯЕ...

***Год таму раптоўна спынілася зямное жыццё народнага артыста Беларусі знанага рэжысёра музычнага тэатра Сямёна Штэйна. Засталіся нерэалізаванымі распачатыя творчыя працы, у тым ліку й праца над дапаможнікам па асновах опернай рэжысуры для студэнтаў. Свае практычныя парады, назіранні, урокі ўласнага багатага сцэнічнага досведу С. Штэйн акурат мінулым летам паспеў занатаваць у некалькіх звычайных школьных сшытках, каб потым развіць гэты матэрыял да ўзроўню падручніка. Не давялося... Мы друкуем сёння фрагмент з рэжысёрскіх нататкаў, якія датычыць працы над пастаноўкай оперы А. Бандарэнкі «Князь Наваградскі»: публікацыя мае асаблівую актуальнасць, бо група стваральнікаў гэтага спектакля, у тым ліку й С. Штэйн (пасмяротна), вылучана сёлета на атрыманне Дзяржаўнай прэміі рэспублікі.***



«Князь Наваградскі»... Задума спектакля, яго вобразнае бачанне ў гэтым выпадку ўзнікалі адначасова і разам з нараджэннем музыкі. Выпадак радасны, неардынарны, вельмі рэдкасны, хаця ў маёй практыцы й не адзінкавы — штосьці падобнае было ў супрацоўніцтве з Ю. Семянякам («Зорка Венера», «Новая зямля», шэраг музычных камедый) ды Г. Вагнерам («Сцяжынаю жыцця»).

Пазнаёміўся я з аўтарамі оперы кампазітарам Андрэем Бандарэнкам і паэтэсай Вольгай Іпатавай пры садзейнічанні У. П. Рылаткі — намесніка міністра культуры Беларусі. Менавіта ён папрасіў мяне сустрэцца з аўтарамі, мяркуючы, што іхнія творчыя памкненні — перспектыўныя. Андрэй Бандарэнка паказаў мне адну карціну оперы і частку другой, Вольга Іпатава пазнаёміла з лібрэта, якое было напісана паводле п'есы Леаніда Пракопчыка, пастаўленай у свой час у Гродзенскім драматычным тэатры.

Першая сустрэча ўзрадавала, але й навяла на роздум. З аднаго боку, было відавочна, што музычная мова кампазітара самабытная, яму падуладныя глыбіня, маштабнасць, фрэскавасць, у ягонай музыцы чуецца мінуўшчына — 13 стагоддзе, трагічны і велічны час гісторыі Беларусі; верш Вольгі Іпатавай пявучы, рытміка надзвычай музычная, паэтычная думка — вобразная, як у шырокіх пластах народных матываў, так і ў індывідуалізаванай абмалёўцы герояў. Абое аўтары — улюбёныя ў гісторыю, цудоўна ведаюць і адчуваюць мінулае, займаюцца ім даўно і прафесійна. Гэта з аднаго боку, а з другога — абое пачаткоўцы, якія ўпершыню судакрануліся з операй, з тэатрам. Музыка цікавая сама па сабе, але пазбаўлена тэатраль-

# КАРОТКІЯ АПАВЯДАННІ

*(Пачатак на стар. 8-9)*

кавалерыйскае сядло, якое засталося яшчэ ад сорак першага года, калі праз нашу мясцовасць да Рагачова ішла конніца Гарадавікова. Здаецца, яго знайшоў у кустах каля дарогі старэйшы брат Хведар. На другі дзень я і прынёс Дворскаму тое сядло. Боты ён сапраўды пашыў. І даволі хутка. Калі ж я спытаў яго, чым заплаціць, былы поп усміхнуўся, сказаў: «Ну, калі можна, паўлітэркай самагонкі». Назаўтра маці пазычыла ў кагосьці бутэльку самагонкі, і я прынёс яе Дворскаму. Ботаў тых мне хапіла ажно на ўсю школу...

Бачыце, колькі ў аднаго чалавека можа быць звязана з другім. Зразумела, што тую бутэльку я «замясціў» потым (і не адзін раз), калі ўжо стаў дарослы. У кожным выпадку, мы заўсёды былі рады сустрэць адзін аднаго, ажно пакуль і мой Вялікі Бор, і яго Саматэвічы не засыпала чарнобыльская радыяцыя... Цяпер ні ў маёй вёсцы, ні ў мястэчку людзі не жывуць: хто перасяліўся ў назнарок пабудаваныя паселішчы, хто — па сваёй ініцыятыве, дзе толькі знайшоў новае месца. Дворскі таксама падаўся кудысьці ў іншае месца...

## ПЕРАМОГА

Вайна, між тым, у сорак трэцім годзе зноў пракацілася па нашай мясцовасці, але ўжо ў другі бок, на захад. Пасля баёў на Бесядзі фронт пастаяў, бадай, з год на Проні, тады зрушыўся далей. Паступова склалася так, што ў нашай вёсцы амаль нічога ўжо не нагадвала пра вайну. Акрамя, вядома, пахаронак. Тым часам у нашай вёсцы зноў аднавіўся калгас, дарослым быў даведзены трывалы працадзень, што азначала на зразумелай мове — хочаш — не хочаш, а вырабіць яго мусіш. За недахоп працадзён маглі не толькі пазбавіць мізэрнай платы за іх. Маглі нават пасадзіць. Людзі на калгаснай працы таму шчыравалі праз сілу, аднак брыгадзір не кожнаму пісаў цэлы працадзень. Часцей — палавінку, нуль цэлых пяць дзесятых. Таму даводзілася нам, дзецям, памагаць сваім мацяркам. Мяне, напрыклад, знаёмы наш рахункавод зрабіў пасыльным, каб адносіў дзённыя зводкі за тры кіламетры ў сельсавет, які быў у Вараноўцы. Бегаў я туды пасля вучобы ў школе. Адносіў зводкі і вяртаўся яшчэ далёка да змяркання. Іншы раз мне давалі ў сельсавеце пошту, каб я разнёс лісты і газеты па дварах. Дзіўна, але чамусьці якраз мне трапляліся ў пошце пахаронкі. Таму ажно боязна было хадзіць па дварах, слухаць жаночы плач. Але я не пра гэта. Выйшла так, што я першы прынёс у сваю вёску і паведамленне аб канцы вайны, аб Перамозе.

Бегаў я ў той дзень у Вараноўку босы. Сказаць дык мы ўвогуле рана пасля зімы пачыналі хадзіць босыя — адно толькі пакажуцца праз снег лапікі на зямлі. У канавах стаяла цёплая вада, на лузе, што быў паміж нашай вёскай і Вараноўкай, плавала ў ямінах ікра — дзе рыб'я, дзе жабіна. Яе і распазнаць можна было толькі па тым, што ў жабінай чарнелі пасярод маленькія кропачкі, з якіх пасля вытыркаліся галавенькі. Звычайна па дарозе назад я лавіў рукамі ў торбу, у якой насіў паперы, рыб'ю ікру, а ўвечары маці нам смажыла яе на вялікай патэльні з малаком і яйкамі. Здаецца, смачней за яе тады нічога не было. Але дзевятага мая мне ўжо стала не да ікры. Яшчэ каля першых вараноўскіх двароў пачуў: перамога, перамога! Пад вокнамі сельсавета хваляваўся натоўп. Адны плакалі, другія смяяліся, трэція абдымаліся адзін з адным. Старшыня ўбачыў мяне, сказаў:

— Бяжы назад, скажы ўсім у сваёй вёсцы — перамога! Гітлеру капут!

Светлы быў дзень той, з высокім небам, са слязамі і радасцю. Я нават забыўся пра свае цыпкі на босых нагах, якія звычайна пасля вады моцна давалі пра сябе адчуваць.

## ДРУГІ ДЗЕД

Як і ў кожнага чалавека ў мяне было двое дзядоў. Але бацькавага я чамусьці не шанаваў. Можа, таму, што ён часта жаніўся і меў праз гэта многа малых дзяцей. Дык дзе яму было да нас, унукаў! Затое другога дзеда, па матчынай радні, я ўспамінаю часта. Звалі яго Ігнатам Міхайлавічам. Я ўжо казаў, што ён да канца свайго больш чым стогадовага жыцця кляпаў і мянташыў касу, валячы ў пракосы ледзь не ў свой рост густую траву, з якой не кожны малады здольны быў справіцца. Але другі дзед мой, Ігнат Міхайлавіч, славіўся сярод людзей не толькі гэтым. Ён быў выдатным пчаляром. Меў сваю пчалярню, катаў мёд, даваў яго каштаваць кожнаму, хто прасіў. Помню, быў адзін дзень на гаду, мядовы Спас, калі ў дзедавым двары, каля клеці, можна было бачыць з карцамі ўсю вёску. Прыходзілі нават з іншых. І ўсім хапала мёду. Хапала і дзедавай шчодрасці. Але ў сорак трэцім чырвонаармейцы разрабавалі ягоную пчалярню. Мы тады былі ў лесе, хаваліся ад немцаў, якія адступалі, але пчалярню разрабавалі не яны — хтосьці бачыў з вяскоўцаў, што апроствалі вуллі нашы салдаты. Здавалася, рабунак той ужо назаўсёды адбіў у дзеда ахвоту да пчолаў. Прынамсі, пчалярская гаспадарка была забыта ім напроч. Але не. Аднаго разу ўлетку ён раптам схапіў пілу, якой рэжуць дрэва, яшчэ нейкую жалязяку, а тады кінуўся за гароды ў поле, пачаў граць на піле, званіць. Аказваецца, над нашым дваром пралятаў пчаліны рой, які і падбіў дзеда схапіцца за пілу. Вядома, я таксама пабег за ім, як зразумеў гэта. І як жа быў уражаны, калі рой пад звон пілы раптам сеў дзеду на галаву, абляпіў усяго ледзь не да пояса; дзіўна было, чаму не зачапіў вачэй. Так дзед і вярнуўся ў вёску з пчаліным роем на сабе.

Некалі мой другі дзед быў багаты. Меў сукнавальню, крупадзёрку, пачаў будаваць вятрак. Але з надыходам калгасаў гаспадарка яго падпала пад раскулачванне, дарма што ў вялікай дзедавай сям'і абыходзіліся без наёмнай працы. Высылаць яго з вёскі не высылалі, аднак у турме ў Магілёве ён пасядзеў-ткі, пакуль нейкі камісар у скуранцы з нярускім тварам не адпусціў яго дамоў. Дык я і кажу — быў мой другі дзед чалавек багаты, а памёр у галечы, у вялікай беднасці ў пасляваенны голад, калі ўлетку мы перабіваліся са шчаўя на ягады, з ягадаў на грыбы. Іншы раз мне здаецца, што памёр ён, гледзячы на нас, хутчэй ад нуды і безвыходнасці.

## Пасляслоўе

Ну а цяпер прызнаюся — бадай, цяжэй, чым гэтыя кароткія апавяданні мне нішто ў маёй літаратурнай практыцы не давалася!.. Чаму б?

## КОНІ

Некалі мяне ўгаворвалі напісаць пра конюха нарыс. Але я не напісаў. І кніга тая ў Магілёве выйшла без майго нарыса. У мяне ў бібліятэцы яна ёсць. Часам, калі яна трапляецца на вочы, я бяру яе ў рукі, гартаю старонкі і кожны раз бачу недзе на сярэдзіне нарыс пра таго конюха, але напісаны другім аўтарам, і мне становіцца ад гэтага нібыта ніякавата. Ніякавата не таму, што не здолеў тады напісаць, ніякаватасць ад іншага — ад таго, што не зусім **тое** пра яго напісана. Хоць, вядома, гэта таксама адноснае — тое, не тое; проста я напісаў бы інačай пра таго чалавека.

А так — я ездзіў тады на конезавод. Было гэта зімой, у самыя сумёты, калі нічога цікавага, здавалася б, не магла даць паездка. Уласна кажучы, яна і не дала. Мы пахадзілі з конюхам па стайні, падзівіліся на коні; я запісаў іхнія клічкі, радаслоўную, узятыя ад бацькоў і набытыя якасці; сёе-тое занатаваў на паперы пра самога конюха — дзе нарадзіўся, дзе працаваў дагэтуль, чаму пераехаў з добрага калгаса сюды на конезавод?..

— Так выйшла, — сказаў ён. Яго звалі Антонам, а тады пачаў тлумачыць: сапраўды, ён атрымаў Героя яшчэ ў кал-

нага дзеяння, лібрэта, цудоўнае па мове, «забойча» шматслоўнае, часам статычнае, а часам, наадварот, не дае асновы для разгорнутых формаў музычнага тэатра — арый, ансамбляў.

І вось больш як два гады мы збіраліся разам і ў мяне дома абмяркоўвалі, фантазіравалі, галоўным чынам вызначаючы «сітуацыю» кожнай карціны, якая нараджае менавіта гэтую музыку, менавіта гэтыя словы. Сапраўды шчаслівы перыяд, самы напружаны, прадукцыйны й натхнёны радаснымі стасункамі. Андрэй з'язджаў да сябе ў Гродна, а праз тыдзень-другі мы зноў сустракаліся і абмяркоўвалі — ужо драматургію напісанага. Крыху пазней да нашай тройкі далучыліся дырыжор Мікалай Калядка і мастак Дзмітрый Мохаў. Наперадзе чакала агромністая праца па ўвасабленні на сцэне задуманага па-за ёй, але ўсё, што было абгаворана, адспрэчана, праспявана і сыграна ў кабінеце, сталася моцнай асновай новага твора, у будучым — спектакля.

Ніколі на сцэне ДАВТа не ўзнаўляліся такія старадаўнія падзеі ды іхнія ўдзельнікі, чые імёны сёння ўжо даволі вядомыя. XIII стагоддзе. Вялікі князь Міндоўг, ягоны сын Войшалк, манахі, народ, жрацы, баяры... У віры падзей, непрымірымых змаганняў веры паганскай ды хрысціянства, у бурах палітычных стасункаў, што гулялі, нібыта з трэскамі, з лёсам людзей, у агні, у палітыканстве, у двурушніцтве адных і ў самаахвярнасці дзеля славы айчыны — іншых, нараджалася і мацнела цяперашняя Беларусь з першай сваёй сталіцай — Навагрудкам. Усё гэта, у спакроўленасці народных памкненняў ды асобных лёсаў, магутна і летапісна гучыць у оперы А. Бандарэнкі.

Гісторыя і мастацкі твор, сапраўднае жыццё, яго героі ды жывы, сучасны тэатр... Натуральна, мы пагрузіліся ў гісторыю. Кнігі М. Ермаловіча ды У. Ігнатоўскага, даследаванні М. Ткачова, п'еса Л. Пракопчыка, дзівоснае веданне В. Іпатавай тагачаснай эпохі, уражлівыя летапісы — аповяды пра Міндоўга, Войшалка, пра побыт, паганскія святы з «дзевамі-вогнеслужкамі», — усё ішло ў эмацыянальную скарбонку нашых уяўленняў пра тую далёкую часіну. Але тэатр — не музей, ён павінен быць цікавым, хвалюючым для сённяшніх людзей, наведнікаў тэатра канца XX стагоддзя. Гісторыя — канечне, этнаграфія — натуральна, побыт эпохі — абавязкова, ды не менш важныя агульначалавечыя якасці, якія не страцілі свайго значэння і сёння: здрадніцтва і вернасць, злачынства і пакаранне, пакаянне, палітыканства, мэта жыцця як стварэнне, а не разбурэнне, дзейсная, не на словах, любоў да Айчыны і г. д. Карацей, эпоха і падзеі яе, характары і людскія ўчынкі, пачутыя, убачаныя нашым сучаснікам — А. Бандарэнкам.

Для нас каштоўны і шаляпінскі падыход да праблемы: «...іграць я мушу не гісторыю, а аблічча, паказанае ў дадзеным мастацкім творы. Гісторыя вагаецца, не ведае — ці вінаваты цар Барыс у забойстве царэвіча Дзмітрыя ў Угліччы, ці невінаваты. Пушкін робіць яго вінаватым, Мусаргскі, следам за Пушкіным, надзяляе Барыса сумленнем, у якім, як у клетцы звер, б'ецца злачынная пакута... Я адданы, не магу не быць адданы задуме Пушкіна і ўвасабленню Мусаргскага — я іграю злачыннага цара Барыса...», — пісаў Ф. Шаляпін.

Калі паспрабаваць адным словам вызначыць гукавы вобраз музыкі Бандарэнкі, дык гэта будзе духоўнасць. І не таму, што малітвы, славянскія песняспевы рэзка кантрастуюць з няўмольнай зацятасцю паганскіх рытмаў 5-й карціны оперы, не таму, што сам Андрэй, чалавек веруючы, завяршае оперу «Малітвай на змірэнне варагуючых» з кананічным царкоўнаславянскім тэкстам, а таму, што ўсе падзеі — ці то светлая лірыка або жорсткае цемрашальства жрацоў — аўтар бачыць, ацэньвае з хрысціянскіх пазіцый, надзвычай блізкіх нам сёння.

Духоўнасць і шлях да яе, праз пакуты, церні, горыч, страты... Адсюль — тры жыцці Войшалка, адпаведна актам оперы.

1 акт. Войшалк-паганец. Буйства маладосці. Вера ў сілу, жыццё ў руках — і ніякіх праблем. Народ, манахі — быдла.

2 акт. Рэальнасць спазнання жыцця. Страта каханай, у чым бачыць ён і сваю віну. Разрыў з бацькам, з сям'ёй. А галоўнае — расчараванасць у веры, якой зацята пакланяўся. Страта сэнсу жыцця — «не хачу болей жыць».

3 акт. Манах Васіль, які спазнаў многія рэлігіі, пабачыў іншыя краіны, заснаваў манастыр пад Пінскам — «вучонасці й асветы храм». Асветнік, які ўтаймаваў сябе ў імя духоўнасці, будучыні народа, Радзімы. Своеасаблівы «запавет» Войшалка, ягонае фінальнае арыёза мае абсалютна сучасны сэнс.

Духоўнасць — гэта паветра спектакля, яго своеасаблівая, відочная аўра. Сабор, храм акаймоўвае сцэну і з'яўляецца яе ж цэнтрам. Канструкцыя, такая зручная для рэжысёрскіх кампазіцый, асабліва масавых сцэн (а яны вызначаюць асноўнае дзеянне), становіцца як бы ўваходам у храм. Свечкі, нязгасныя, нават калі дзеянне — у інтэр'еры, жывуць сваім жыццём і даюць адчуванне, што мы ўвесь час у адным вялікім чалавечым храме. Усялякая малітва гучыць тут натуральна і пранікнёна. Паэтычнае казанне — вось жанр спектакля, вызначаны пастановачнай групай.

«Зямля пад белымі крыламі» — вобраз, пазычаны ў У. Караткевіча, зрабіўся й нашым — у фінале спектакля белыя крылы мкнуць увышыню, абдымаючы ўсю сцэну і герояў спектакля, якія ўкленчылі ў малітве. Вялікі князь Міндоўг, князь Навагрудскі Войшалк-Васіль, Раман-баярын, дачка ягоная Рута, каханая Войшалка, якая згарэла ў агні дзікага ахвярапрынашэння, Зіберт — пасланнік магістра Тэўтонскага ордэна, Елісей — настаяцель манастыра, Дзій — вярхоўны жрэц Перуна ў Навагрудку, Леў Данілавіч — князь Галіцыі, забойца Васіля, ды іншыя персанажы, жрацы, баяры, манахі, народ — усе яны, такія розныя, жывуць у музыцы оперы, у якой сплаўлены трагедыя і чыстая лірыка, эпас і філасофскі роздум, драма і аратарыяльнасць — без архаікі, без павярхоўнай народнай стылізацыі з мноствам знаёмых фальклорных папевак, але са светлай і крохкай надзеяй на будучыню.

Такі разбэрсаны, супярэчлівы, канфліктны свет мусіў знайсці свой адзіны сімвал. Ім зрабіўся герб XIII стагоддзя «Пагоня». Такім чынам калыска беларускай дзяржаўнасці і жыццё наша сённяшняе зліліся ў адзіным сімвале. «Пагоня» на сцэне не статычная, яна жыве сваім жыццём, разам з падзеямі, быццам бярэ ў іх удзел. Пачатак спектакля — герб падымаюць людзі, цяжка, марудна, — пад гукі трагічных масіўных акордаў. Цягнуцца, следам за «Пагоняй», стомленыя рукі стомленага народа, які стагоддзямі чакаў світання. У 3-й карціне герб будзе ў цэнтры сцэны, і за яго грудзьмі ўстане Міндоўг, гаворачы тронную прамову перад народам і ўпэўнена скіроўваючы «Пагоню» ўвысь. А ў фінале герб падымуць дзіцячыя рукі — наша мара, наша будучыня, наша надзея. І белыя крылы будуць суправаджаць гэты ўздым: зямля пад белымі крыламі.

Храм заззяў ва ўсім сваім харастве, народ, укленчыўшы пад знакам «Пагоні», глядзіць удалячынь, слухаючы запавет свайго князя, які аддаў жыццё ў імя росквіту Беларусі.

**Сямён ШТЭЙН**
**Публікацыя М. БУСЬКО**

гасе, але пасля шмат што памянялася ў жыцці, галоўнае ж — звяліся паступова ў гаспадарцы коні; вось ён і працуе ўжо колькі гадоў тут, на конезаводзе.

Матэрыялу, які сабраў я ў часе камандзіроўкі, хапала для нарыса, нават дадумваць мала што спатрэбілася б, але я адразу ўжо ведаў, што пісаць не стану. І не таму, што штосьці мне не спадабалася ў самім чалавеку ці ў ягонай справе. Не. Антонавы коні былі гладкія і прыгожыя, з доўгімі, усё роўна як знарок вырашчанымі грывамі, і сам Антон прыгодны быў у героі; праўда, можа, залішне гаваркім здаўся, але гэтая акалічнасць не выклікала ў мяне адмоўнага пачуцця, не кажучы ўжо аб непрыязнасці. І тым не менш, паўтараю, пісаць нарыс я не стаў. Цяпер хочацца тлумачыць гэта рознымі прычынамі, першая сярод якіх з'яўляецца і самай простай, бо сапраўды лепей было б прыехаць на конезавод улетку, як кажуць, пабачыць усё на прыродзе, з табуном і начлежным вогнішчам... Між тым, была яшчэ адна прычына, гэта я магу сказаць сёння дакладна, можа, нават і самая важная, якая канчаткова паўплывала на маё рашэнне; яна дзейнічала хутчэй за ўсё несвядома, але дзеянне яе было падобна на пах, што адбівае ў чалавека смак ад нечага надоўга, а то і назаўсёды. Зразумеў я гэта потым, бадай, ужо гадоў праз колькі, як з'ездзіў на той конезавод другі раз. Але растлумачыць апошнюю прычыну якраз цяжэй. Нават не ўпэўнены, ці зразумелае будзе тлумачэнне. А справа ўся была ў конскіх клічках, у тых імёнах, якія насілі гэтыя жывыя не дужа вольныя істоты; так, у імёнах, але таксама і ў словах адной частушкі, што прыйшла тады на памяць у канюшні. Праўда, ведаў я з яе ўсяго адзін радок — аб тым, што «конная Будзённага» некалі «пайшла на каўбасу». І ўзнік ён у памяці па асацыяцыі, калі Антон назваў «Рулетам» самага грываставага жарабка пегай масці. Так яно і склалася адно ў адно, як наўмысна — спярша Антонава апраўданне, што, маўляў, коні ў калгаснай гаспадарцы звяліся, таму давялося пераязджаць сюды, затым гэтая конская клічка — «Рулет», пасля даўняя частушка, якая засталася ў памяці маёй, няйначай, ад вайны, з часу нямецкай акупацыі. І ўсё гэта, кажу, сышлося разам, стаўшы своеасаблівай псіхалагічнай перашкодай. Да таго ж, я помніў яшчэ, як пасля вайны ўжо сапраўды забіралі з калгасаў коні не куды-небудзь, а на «загатжывёлу».

Другі раз паехаў я на конезавод сапраўды ўлетку. Але хутчэй за ўсё не таму, што нарэшце рашыўся напісаць пра Антона. Няйначай, што абяцаў у першы прыезд наведацца на конезавод і другой парой, балазе, што моцна запрашаў тады і дырэктар, маўляў, улетку ў пойме Віхры куды прыгажэй, чым зімой, і зноў жа — як гэта чалавеку, які змалку прывык ганяць коні на начлег, не хочацца пасядзець сярод ночы ля вогнішча... Так што спакуса для другой паездкі была і без таго.

Пойма Віхры, яе выгляд у чэрвені месяцы сапраўды пацвердзіў усё, чаго можна было наперад чакаць: злева скрозь распасціраліся заліўныя лугі, шчыльна парослыя пярэстым каляровым разнатраўем, якое здалёку чамусьці здавалася ажно сінім, нават фіялетавым, нібыта іх, тамашнія лугі, займала ад краю да краю адна аўсяніца; справа, па другі бок ракі, высіўся стромы бераг з белымі вымоінамі пяску на адхонах, што нагадвалі паўночныя дзюны; а па-над тым берагам, як акінуць вокам у два канцы, нібыта вытыркаліся аднекуль з глыбіні зямлі няроўныя камяніцы старажытнага горада, можа, самага ранняга ў нас.

У другую паездку ў мяне часу было больш, чым тады, калі наведваўся на конезавод у лютым месяцы. І яго траціў як хацеў, балазе цяпер не быў абмежаваны ніякімі акалічнасцямі, якія б звязвалі рукі — як кажуць, свая воля і свая няволя, а тут ахвота. Знаходзячы кожны раз хоць якую прычыну, проста, для сябе, удзень я смурыжыў паміж лозамі густую, акурат авечая скура, траву; часам, усё роўна як зачараваны, падоўгу ўзіраўся цераз раку ў сцішаны горад, думаючы чамусьці — і зусім не з-за ўвагі да гісторыі — больш пра тыя далёкія часы, калі татара-мангольская конніца, дакаціўшыся сюды ад самай Волгі, не раз і не два таптала гэтыя лугі і заўсёды заканчвала тут, на Віхры, няўдачай свой чарговы набег; а ў начы мы з Антонам сапраўды палілі вогнішча, кожны раз выбіраючы не так для сябе, як для табуна, новае месца, хоць у выбары і існавала заканамернасць, нават не заканамернасць, называць наш выбар такім чынам было б занадта, — проста, кіламетры за тры ад Віхры выбівалася аднекуль з сярэдзіны «святая» крыніца, і мы ўзялі сабе за звычай браць з яе ваду на гарбату. Чаму гарбату? Гэтае слова першы сказаў Антон, а я пасля яго не стаў гаварыць звыклае «чай»; так і павялося паміж нас — гарбата ды гарбата. Ну а чаму крыніца святая? Таксама тлумачэнне знайшлося.

— Ат, — махнуў рукой Антон, калі я пацікавіўся гэтым, — папы недзе агледзелі яшчэ ў старыя часы, пасля зруб узвялі. Раней нават імшу правілі каля гэтай крыніцы. Цяпер гэта звычайны калодзеж. Ну а вада ў ёй сапраўды смачная. У кожным разе незвычайная. Нешта ў ёй ёсць такое, што адрознівае яе ад іншых. Ці мала за жыццё давялося піць з якіх крыніц, а гэта...

Вада і праўда была цудоўная, калі можна ўвогуле так гаварыць пра ваду. Пахучая, акурат разварыстая, з яе атрымлівалася чай-гарбата. Але ў тым, што гарбата выходзіла такая, вінаваты быў, канечне, Антон. Ён умеў варыць яе, іначай не скажаш, бо чалавек варыў гарбату, а не заварваў: клаў у вядро цэлы ахапак, загорнуты ў марлю, розных траў, якія, можа, аднаму яму і вядомы, доўга трымаў на ціхім агні, пасля адцэджваў і ўжо затым разліваў па кубках. Пілі мы ягонае пітво няспешна і моўчкі, акурат насцярожвалі спалохаць штосьці, да таго ж, заўсёды без цукру, як юшку. І калі я не вытрымліваў, пачынаў хваліць гарбату, Антон адно ўсміхаўся ды чамусьці з палёгкай уздыхаў, прамаўляючы сваё звыклае «ат», у якім кожны раз чулася то своеасаблівае адмаўленне чагосьці, то, наадварот, амаль поўная згода, і мне, прызнацца, спярша не адразу ўдалося адчуваць гэтую розніцу. Акрамя ўсяго іншага, Антон цяпер зусім непадобны быў на сябе, на ранейшага. І не падобны перш за ўсё сваёй неразгаворлівасцю. Калі зімой ён быў залішне гаваркі, ажно мітуслівы, нібыта хацеў знарок спадабацца, дык гэты раз яго акурат падмянілі, можа, ён нават і ў галаве ўжо не меў, што я прыязджаў некалі пісаць пра яго. Словам, чалавек раптам зрабіўся, няйначай, самім сабой. Падрыхтаваўшы гарбату, Антон звычайна садзіўся на грудку, крокаў за колькі ад вогнішча, але не на такое адлегласці, каб схавацца ў змроку. Я заўсёды бачыў яго ссутуленую постаць і гарбаносы профіль, даволі было дзеля гэтага адно кінуць у той бок позірк; дзіўна, але і ў начы я часта адчуваў ягоную жывую прысутнасць, дастаткова было, напрыклад, прачнуцца, як ён тут жа не спаў, маючы клопат пасвіць коні і мяне губляць з поля зроку. З гэтага повад ён неяк сказаў:

— Вы не зважайце, што я часта прачынаюся. Я наогул вельмі чуйна сплю. Конюх іначай не можа. Яму нельга. Ну а яшчэ... Такім вось чынам я даўжэйшым раблю сваё жыццё. І ноч амаль не спіш, і дзень працуеш. Таму і здаецца, што доўга і даўно ўжо жывеш на свеце. А той чалавек, які ночы прасыпае, адным днём жыве, яму і жыццё падаецца кароткім. Я гэта зразумеў зусім нечакана, на поўдні, калі ездзіў туды па пуцёўцы. Ляжаш, бывала, з вечара, а прачнешся толькі ўранні. Ні табе клопату ўначы, ні трывогі. Ну і спіш таму моцна. У выніку ноч — адно імгненне несвядомае, на жыццё застаецца толькі дзень. А ў мяне тут — і ноч, лічы, свядомае жыццё, і дзень.

Я, канечне, пасмяяўся з гэтакага спосабу падоўжваць жыццё. Ён таксама пасмяяўся разам са мной, усё роўна як за кампанію, але нічога не збіраўся мяняць у сваім распарадку. Дакладней, у сваім ладзе жыцця: заставаўся такім жа чуйным па начах і руплівагаспадарлівым удзень, калі амаль не выходзіў са стайні. Я ўжо казаў, што цяпер, улетку, ён быў нешматслоўны, гэта так, аднак разам з тым гэта не азначала таксама, што мы не размаўлялі з ім увогуле. Наадварот, гаманілі шмат, праўда, найчасцей урыўкамі, як бы нечакана, і я нарэшце, здаецца, ужо ведаў пра яго ўсё ці амаль усё, што можна было ведаць пра прыстойнага чалавека. Ведаў нават больш таго. Асабліва часта ён успамінаў сваіх дачок. Іх у яго было дзве. Адна замужам жыла ў Клайпедзе, за маракам рыбалоўнага флоту, але няўдала, з мужам у яе завяліся нелады, і бацька перажываў за сваю малодшую, казаў, што трэба з'ездзіць туды, быццам ад ягонай паездкі сапраўды залежала нешта. І ўсё-ткі не гэтыя размовы, не гэты клопат змусілі мяне і сёння ўспамінаць пра Антона, праз шмат гадоў.

Аднойчы пад ранне, калі чырвонай мярэжай запалаў на ўсходзе світанак, а над пяшчанай выспай, на якой мы тады абначыліся, аціхнуў вецер, каб неўзабаве зноў пачацца на краю старой дзебры, конюх ускінуў раптам, усклікнуў:

— Коні?

Дзіўна, але вочы яго былі цяпер быццам невідушчыя, свяціліся аднымі бялкамі, як у старца. Між тым, коні былі побач, адзін нават стаяў, бадай, каля самага вогнішча, пакрытага попелам.

— Вось яны, коні, — сказаў я ціха, каб не разбудзіць яго, бо падумаў, што чалавек ускочыў у сне.

Але Антон сам хутка ачомаўся, сказаў вінавата:

— Гэта я так. Прыснілася раптам. А ўжо здавалася ж, што пазбавіўся ад гэтага.

— Ад чаго пазбавіўся?

Ён памуляўся трохі, усё роўна як яму цяжка было на штосьці рашыцца, тады расказаў. Уласна кажучы, ягоны расказ і растлумачыў усё астатняе.

Здарылася гэта ў мінулую вайну. Антон партызаніў. Але ў партызаны прыйшоў з нямецкага палону, якраз супроць першай ваеннай зімы. Праўда, гэтая акалічнасць нічога не значыла ў ягоным расказе. Галоўнае, што Антон быў у партызанах і аднойчы апынуўся ў варожай блакадзе. Іх, партызанаў, тады было трох, на конях. І выбрацца з варожага кола можна было толькі праз раку, якая агінала ў тым месцы бярозавы гай. Але коні замінялі партызанам. З імі немцы ўбачылі б адразу партызан. І яны прывязалі свае коні да бярозаў, а самі папаўзлі праз травяністы луг да ракі. Ім тады пашанцавала. З блакады яны выбраліся ўплаў, не выклікаўшы ў немцаў нават падазронасці. Але назад, у той бярозавы гай, дзе былі пакінуты прывязаныя коні, ніхто з трох не трапіў. Па-першае, доўга трымалася варожая блакада, па-другое, немцы прымусілі партызанаў, у тым ліку і Антона, адступіць далёка ад таго месца, дзе стаялі коні. І калі нарэшце Антон вярнуўся ў бярозавы гай, коні былі нежывыя — выскублі не толькі ўсю траву пад нагамі, але і абгрызлі кару на дрэвах...

З тых дзён прамінула шмат часу, але Антон успамінаў пра мёртвых коняў надзвычай цяжка.

Я доўга сядзеў трохі здалёк ад яго, маўчаў. Вочы яго зноў зрабіліся відушчымі, але цяпер ён часта-часта пацепваў плячамі, быццам моцна празябнуў без палаючага вогнішча. Дык хіба ж мог ён не стаць конюхам?

Вецер, што заціхнуў на нейкі час паміж Віхрой і выспай, дзе мы з Антонам выбралі гэты раз начлег сабе, зноў пачаў варушыць траву навокал; ад ракі тым часам пацягнула новай, ужо начной, нейкай колкай свежасцю... Я цяпер, праз гады, адчуваю той вецер на сваім твары. Асабліва калі бачу коні.

ЛіМ
ЧАСАПІС



## АД СЛОЎ — ДА СПРАВЫ

**Пра стварэнне беларускай нацыянальнай школы руплцца сёння тыя, каму неабыякавы лёс Бацькаўшчыны, хто хоча, каб працэсы Адраджэння набывалі незваротны характар. Найбольш актыўныя ад слоў пераходзяць да справы. Пацвярджэнне таму і намаганні ў гэтым кірунку педагагічнага калектыву Міханавіцкай сярэдняй школы Мінскага раёна, якія так вызначыў сваю галоўную задачу: прывіваць любоў да роднага краю праз адраджэнне беларускай нацыянальнай культуры, мясцовых абрадаў і традыцый.**

**З мінулага навучальнага года ў школе чытаецца курс «Спадчына роднага краю», адрасаваны пятаму — сёмаму класам, які вядзе М. Леўкавец. Тэорыя, як кажуць, спалучаецца з практыкай. Самі вучні збіраюць і апрацоўваюць матэрыял па тэме «Духоўная культура беларусаў».**

**На базе школы створаны фальклорны калектыў «Калыханка», што двойчы ўдзельнічаў у міжнародным сімпозіуме краін Сярэдне-Заходняй Еўропы, выступаў з канцэртамі ў Санкт-Пецярбурзе і Геленджыку, а сёлета прымаў удзел у Міжнародным фестывалі народнай песні ў Пінску.**

**Пра захады калектыву па нацыянальным Адраджэнні падрабязна расказаў у артыкуле «Кожны з нас прыпасае Радзімы куток», змешчаным у адным з апошніх нумароў «Настаўніцкай газеты», дырэктар Міханавіцкай школы У. Каліноўскі. Ён у заключэнне адзначае: «Ствараючы ў школе цэнтр беларускай нацыянальнай культуры, у якім будуць прадстаўлены здабыткі беларускіх народных рамёстваў, нацыянальнае беларускае адзенне, вырабы з дрэва і саломкі, вышыўка, пляценне, мы спадзяёмся, што ён паспрыяе выхаванню ў дзяцей любові да роднага краю, цікавасці да яго гісторыі і народных традыцый, а значыць — нацыянальнай самасвядомасці, патрыятызму».**

## ЗЛАЧЫНСТВЫ Ў КРАШЫНЕ

**«Дайшла чарга» і да сімвала-помніка Паўлюку Багрыму на яго магіле ў Крашыне пад Баранавічамі. Нехта пакваліўся на кветкі, што аздаблялі помнік. Іх было сем і ўсе яны былі зроблены ў 1988 годзе з каляровага металу мастаком Сымонам Свістуновічам.**

**Таксама загадкава і невядома ў якія часы знік і камень з паэтычнымі радкамі (тэкст А. Адынца), якія выбіў у 1884 годзе каваль П. Багрым:**

**Тых двух, што во тут па дубку пасадзілі,
Ажно на паўвека былі разлучылі.
Ды іх філарэцкая дружба за час той
Не згасла ў дарозе жыцця пакручастай.
Калі іх звёў Бог зноў на гэтым жа свеце,
Ім блiснула праўда, як перлінка ў леце:
Уцехі зямныя — то сон, то ўцякае,
У сэрцы любоў толькі не памірае.
Пра тое сведчыць і гэты во камень,
Як будуць абодва пад каменем самі.**

**(Пераклад з польскай К. Цвіркі)**

**Як бачна, дзікунства і злачынства на гэтай зямлі былі ва ўсе часы.**

**М. МАЛІНОЎСКІ**

## НА ФОНЕ СУСВЕТНАЙ

**разглядаецца беларуская культура ў праграме курса «Асновы сусветнай культуры», распрацаванай кандыдатам гістарычных навук, старшым выкладчыкам Мінскага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта А. Кушнярэвічам. Публікаваць праграму пачаў у восьмым нумары часопіс «Адукацыя і выхаванне».**

**З іншых матэрыялаў шырокага чытача зацікавяць тыя, што змешчаны ў раздзеле «Повязь часоў». Гэтым разам публікуюцца артыкулы, у якіх расказваецца пра фінансаванне дарэвалюцыйных гімназій, адбываецца знаёмства з бібліятэкамі езуіцкіх навучальных устаноў канца XVI — пачатку XIX стагоддзя, паведамляецца, як беларуская літаратура ў 1905—1907 гадах змагалася за нацыянальную школу.**

## ПЕРАД ДАРОГАЙ АГЛЕДЗЬСЯ

**Назва кнігі выбраных твораў Міхася Стральцова «Перад дарогай», выпушчанай выдавецтвам «Юнацтва» ў серыі «Школьная бібліятэка», набывае глыбокі сэнс.**

**У асноўным чытаць кнігу будуць старшакласнікі, а яны, па сутнасці, і знаходзяцца перад вялікай дарогай у самастойнае жыццё. А тут, бадай, як ніколі, неабходны выразныя арыенціры. Сёння ж іх, на жаль, не стае. Тым самым творы М. Стральцова ў нейкай ступені дадуць адказ на пытанне, што нязменна ва ўсёй сваёй вастрыні паўстае перад кожным пакаленнем: як жыць?**

**У аднатомнік увайшлі аповесці «Адзін лапаць, адзін чунь», «Загадка Багдановіча», а таксама лепшыя апавяданні пісьменніка.**

Спадчына

# ВЕРШ БЕЛАРУСКАГА ДЗЕКАБРЫСТА

У вялікім памкненні да волі лепшых сыноў Расіі — дзекабрыстаў, што ў далёкім 1825 годзе з адкрытым забралам выйшлі вырываць сваю краіну з учэпістых кіпцюроў векавечнага тыранства, не маглі стаяць убаку і беларусы, падданыя той жа Турмы Народаў. Праўда, пра беларусаў-дзекабрыстаў у нашай гістарычнай літаратуры мы не шмат можам прачытаць. Зрэшты, ці ж толькі пра іх? Пра ўдзел беларусаў у дзекабрысцкім руху, думаецца, яшчэ напіша «новы, а мудры гісторык», усебакова асветліць гэтую, вельмі цікавую для нас тэму.

Мне ж тут хацелася б звярнуць увагу на згуртаванне беларускай студэнцкай моладзі у Вільні першай чвэрці XIX стагоддзя Таварыства філаматаў, якое сваімі ідэямі было блізкае да дзекабрысцкіх арганізацый Расіі. З імі, зрэшты, яно ўжо і навязвала непасрэдныя кантакты. Праўда, выступіць у тым векапомным снежні і разам з рускімі аднадумцамі яно не магло па той простай прычыне, што за два гады перад гэтым было выкрыта царскімі ўладамі і ліквідавана. І ўсё ж адзін з уцалелых ад царскіх рэпрэсій філаматаў здолеў-такі прыняць удзел у паўстанні дзекабрыстаў.

Я маю на ўвазе тут ураджэнца Беласточчыны Міхала Рукевіча. У Таварыства філаматаў ён увайшоў у 1819 годзе і вельмі хутка праявіў сябе як выдатны арганізатар моладзі, завадатар і ўдзельнік многіх філамацкіх пачынанняў. За гэта вельмі высока цаніў яго сябар па Таварыстве Адам Міцкевіч. «Рукевіча я вельмі хвалю, — пісаў ён Францішку Малеўскаму... — Шчыры і вельмі здольны». Рукевічу прысвячалі свае вершы Тамаш Зан і Ян Чачот.

У 1820 годзе Міхал Рукевіч скончыў вучобу ў Віленскім універсітэце і выехаў гаспадарыць на сваю Беласточчыну. Але не парываў стасункаў з Таварыствам. Ён заняўся стварэннем філарэцкіх філій на Беласточчыне і Гродзеншчыне. Гэта ён арганізаваў згуртаванне беластоцкіх гімназістаў «Згодныя браты» і падобнае ж згуртаванне ў Свіслацкай гімназіі. Калі ў 1823 годзе пачаліся арышты філаматаў і філарэтаў, Міхала Рукевіча таксама схапілі жандары і адвезлі ў турму ў Вільні. Але на допытах яму ўдалося выкруціцца. Вярнуўшыся дамоў, у свае Завыкі, ён працягваў сваю антыцарскую дзейнасць. Пазнаёміўшыся з афіцэрамі так званага Літоўскага асобнага корпуса царскіх войскаў, часці якога былі расквартараваны ў недалёкім мястэчку Бранск, Міхал Рукевіч арганізаваў сярод іх Таварыства ваенных сяброў, якое было па сутнасці адной з дзекабрысцкіх арганізацый. У кіраўнічы камітэт Таварыства ўвайшлі афіцэры царскай арміі Ігельстром, Вягелін, Гофман, Трамбецкі, Пятроўскі і іншыя асобы. Старшынёй згуртавання выбралі паручніка Гофмана. Ідэйным кіраўніком арганізацыі быў Міхал Рукевіч.

Мужнае выступленне дзекабрыстаў Паўночнага таварыства ў Пецярбурзе 14 снежня 1825 года на смерць напалохала цара і яго памагатых. Ды, як піша ў сваёй кнізе «Декабристы и польское национально-освободительное движение» П. Альшанскі, «не паспеў яшчэ новы імператар Мікалай І ачнуцца ад узрушэння, выкліканага паўстаннем на Сенацкай плошчы, як у Пецярбург прыляцела новая страшная вестка: салдаты і афіцэры аднаго з падраздзяленняў Асобнага літоўскага корпуса — Літоўскага піянерскага батальёна — узбунтаваліся і адмовіліся прысягаць новаму манарху. Тое, што гэты бунт адбыўся ўслед за паўстаннем у Пецярбурзе і амаль адначасова з паўстаннем Чарнігаўскага палка, дазваляе паставіць пытанне пра ўзаемадачыненні гэтых падзей. Нездарма ж урад Мікалая І адразу ж пачаў шукаць ніці, што звязвалі гэтыя рэвалюцыйныя цэнтры».

Ваенны суд вынес суровы прыгавор «ваенным сябрам» на чале з Міхалам Гукевічам: смяротная кара. Але цар «всемилостивейше» замяніў яго на сібірскую катаргу. І вось беларускія дзекабрысты пагрымелі сваімі кандаламі ў далёкую Сібір. Першага адпраўлялі апранутага ў арыштанцкую вопратку, закутага ў кандалы і пазбаўленага дваранства Міхала Рукевіча, за ім — усіх астатніх.

У пачатку 1828 года калоднікаў даставілі ў Іркуцк, а праз колькі тыдняў — у халодную і непрытульную Чыту. Тут «ваенныя сябры» трапілі ў спагадныя абдымкі герояў 14 снежня. Лепшыя сыны Расіі Мікіта Мураўёў, Сяргей Трубяцкой, Сяргей Валконскі, браты Бястужавы, Мікалай Лорэр, Міхаіл Лунін, Іван Якушкін, Аляксандр Адоеўскі і іншыя сталі сябрамі Міхала Рукевіча і яго паплечнікаў. Рускія сябры цанілі Міхала Рукевіча за вясёлы нораў, за ўменне пераносіць цяжкасці катаржнага жыцця. Ужо ў першы дзень з'яўлення Рукевіча ў Чыцінскім астрозе гэтыя яго якасці заўважалі дзекабрысты і іх жонкі, якія жылі побач з астрогам. Напрыклад, княгіня Валконская ў сваіх «Запісках» успамінала, як «М. Рукевіч прымушаў нас многа смяяцца сваімі чыста сармацкімі выхадкамі. Ледзь паспеў ён увайсці ў астрог, насупраць дома Александрыны (Аляксандры Рыгораўны Мураўёвай), як стаў каля агароджы і з сентыментальным выглядам (і з моцным польскім акцэнтам) запеў стары французскі раманс: «В стенах мрачной кельи младой король томится...»

Пасля катаргі Міхала Рукевіча адправілі на вечнае пасяленне ў далёкую і глухую вёсачку на беразе ракі Лены. Там ён абзавёўся сям'ёй і жыў да сваёй гібелі ў 1841 годзе.

Пададзены ніжэй верш Міхала Рукевіча ў маім перакладзе з польскай мовы быў напісаны як філарэцкая песня, што ўвайшла ў вершаваную прамову, прачытаную аўтарам 29 мая 1821 года на ўрачыстасці, прысвечанай яго сябру Тамашу Зану. Дзеля гэтага Рукевіч спецыяльна прыехаў у Вільню з вёскі. Рукевічаву прамову ў выглядзе вялікага верша пад назвай «Гэй жа, брацця філарэты!» апублікаваў у другім томе «Паэзіі філаматаў» Ян Чубак (Кракаў, 1922).

Дарэчы, герб сярэдневяковай беларускай дзяржавы Вялікае княства Літоўскае «Пагоня» ўслаўлялі ў сваіх творах і іншыя філаматы і філарэты, што можа быць яшчэ адным аргументам у спрэчках пра значэнне беларускай сімволікі ў змаганні нашага народа за сваё нацыянальнае вызваленне. Думаецца, гэтая тэма наогул варта спецыяльнага даследавання.

**Кастусь ЦВІРКА**

Міхал РУКЕВІЧ

## З ПАГОНЯЙ НАШАЙ СЦЯГ

**Хай звіняць аб чашу чашы —
Будзь жа з намі, весялосць!
Жарт, прыйдзі ў забавы нашы,
Філарэтаў любы госць!**

**Сын Самэлы[1] тут паможа
Весяліцца нам усім.
Піце ж Божы дар, хто можа —
Не загінем, знайце, з ім!**

**Хай багач дабро ды пыху
Сцеражэ, а мы, братва,
Гуртам тут прыгубім крыху
Зноў вясёлага пітва!**

**На стале — не сон, а ява! —
Чары з сонцам, як адна.
Тым, сябры, хвала і слава,
Хто спарожніць іх да дна!**

**Не хадзіў наш продак хмуры,
Шчырасць скрозь была ў цане.
Жыгімонты ды Батуры
Клёк знаходзілі ў віне.**

**Браў калісь гумор вясёлы
З чары і Анакрэон[2].
Весяліў палацы й сёлы,
І таму — вялікі ён!**

**Дык жыві ж, наш Бах каханы,
Весялі заўсёды нас.
Ты вяртаеш час жаданы,
Што нуду змятае ўраз.**

**Гэй, гуляйма, філарэты!
Радасць, нас усіх радні!
Дружбай вернаю сагрэты
Будуць вечна нашы дні!**

**Стой, братва! Між весялосці
Помні, хто яе нам даў,
Хто ўсіх нас — згадай і ў тосце —
У адну сям'ю з'яднаў.**

**Братніх сэрцаў нашых слова
Разам выкажам услых:
Хай жа імя Тамашова
Будзе прыкладам для ўсіх!**

**Кліч жа ўвысь ты нас, саколе!
Наша ўдзячнасць, дзецюкі,
Выб'е ў памяці касцёле
Гэта імя на вякі.**

**Хай сюды во сыйдзе Слава
З неба — кожны будзе рад —
І раскажа ўсім яскрава,
Як шануецца наш брат.**

**Ад сяброўскіх віншаванняў,
Ад пахвал, любві без меж,
Нашых шчырых парыванняў
Ты йшчэ болей расцвіцеш.**

**Багацей, здаўна ўлюбёны
Толькі ў скарбаў хіжых тло,
Ці ж спазнае, раб мамоны,
Дружбы гэтакай святло?**

**А тыран, што злосцю п'яны
(На яго жах паглядзець),
Што гняце свой люд падданы,
Хіба ж будзе шчасце мець?**

**Не для іх — хай кожны знае —
Шчасце свой вянок сплятае.**

**А спазнае шчасце гэта
Той, хто ў працы і ў гульбе
Возьме прыклад з філарэта
Назаўсёды для сябе!**

**Гэй, браты, гэй, філарэты!
Смех і радасць — зноў у нас!
Ці ж усе ў нас песні спеты?
Не мінуў яшчэ наш час!**

**Дык калі паклічуць трубы
Нас у сонечны прасцяг,
Дружна ўздымем вольналюбы
Мы з Пагоняй нашай сцяг!**

*1821*

---

*[1]Сямела — паводле грэчаскай міфалогіі, каханая Зеўса. Іх сын Дзіяніс — бог расліннасці, апякун вінаградарства і вінаробства, быў адным з найбольш папулярных багоў Старажытнай Грэцыі.*

*[2]Анакрэон, Анакрэонт (каля 570—478 да н. э.) — старажытнагрэчаскі паэт. Апяваў каханне і разгульнае жыццё.*

# СВЯТА РОДНАГА СЛОВА



Людна і ўрачыста было тым восеньскім днём на плошчы імя Якуба Коласа ў Мінску. Тут намаганнямі выканкама Савецкага раёна сталіцы і Літаратурнага музея народнага паэта ладзілася Свята беларускага пісьменства і друку.

Гучалі мілыя сэрцу мелодыі і песні. Іх выконвалі дзіцячы ансамбль народнай музыкі «Каласкі» і квартэт «Святлана» Коласаўскай музычнай школы Стаўбцоўскага раёна.

Галоўны спецыяліст па культуры выканкама У. Шавялёў і дырэктар Літаратурнага музея Якуба Коласа З. Камароўская абвясцілі свята пачатым. Слова ўзяў заслужаны работнік культуры Беларусі, сын народнага песняра Д. Міцкевіч. Ён гаварыў пра ўклад бацькі ў развіццё роднай літаратуры і мовы, запрасіў прысутных наведацца ў Коласаў дом.

Выступіў і старэйшы беларускі паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа С. Грахоўскі. Яго сказ — не толькі пра горкі, пакутны лёс роднага слова, але і неўміручасць яго. Прамоўца прачытаў верш, напісаны спецыяльна да Свята пісьменства.

У суладдзі з тэмай урачыстасці гучалі і вершы У. Някляева і П. Прыходзькі, прыязна было ўспрынята публікай і вясёлае выступленне загадчыка аддзела музея Якуба Коласа І. Курбекі.

Хараша «аздобілі» свята калектывы мастацкай самадзейнасці Мінска — фальклорны ансамбль Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі «Горліца» і гурт «Алеся» ВА «Гарызонт».

**С. ІВАНЧЫК**

*На здымку: момант свята.*

*Фота А. ФЕДАРЭНЧЫКА*

# ПРАКЛЯТЫ ТОЙ, ХТО...

## НАЎЗДАГОН ТОРУНЬСКАМУ ТЭАТРАЛЬНАМУ ФЕСТЫВАЛЮ «КАНТАКТ-94»

***З усіх мастацтваў для нас найважным з'яўляецца... кантакт. Мастацтва зносіцца, грамадаваць, калегаваць. Кантакты тэатральнага фестывалю — размаітыя, рознагалосыя — зазвычай яднае якая-кольвек ідэя. Падмуркам Торуньскага фестывалю сталася ідэя ... калегавання, грамадавання, зносінаў. Крысціне Мейснер, мастацкаму кіраўніку, арганізатару, натхняльніцы й захавальніцы ўсіх набытых кантактаў, за дзесяць фестывальных дзён, напэўна, шмат разоў нагадалі пра ейнае зямляцтва з Мікалаем Капернікам. Цалюткі тэатральны свет абярнуўся, кантактуючы, вакол Торуні напрыканцы травеньскіх дзён. А мо сама Торунь круцілася-абарачалася вакол якойсьці неназванай ззяючай тэатральнай планеты?***

Пані Мейснер, апавядаючы пра задачы ды прынцыпы, зважыла на тое, што кожны запрошаны ёю спектакль мусіў прадставіць сёлетні тэатральны сезон сваёй краіны, прадставіць так, як адчула, як убачыла яго сама пані Мейснер. Беларускі сезон, напрыклад, у Торуні азваўся эксперыментамі тэатра «Верасень», мастацкім кіраўніцтвам Сяргея Кліменкі, рэжысураю Мікалая Дзінава і драматургіяй Георгія Марчука «Welcome» ў нашу вёску». Відовішча, асталяванае ў трамвайным дэпо (пошукі прасторы, асяродку, атмасферы!), агульна паменавалі сялянскім абсурдам у звязку з тэатрам жорсткасці Антанена Арто, які стваральнікі так і не зразумелі (ініцыятыва вызначэння належыць крытыку з Эстоніі Барысу Туху). Было ры. А прадставіла... хацела была напісаць — нацыю, але, памятаючы прынцып пані Мейснер, скажу больш памяркоўна — сёлетні наш тэатральны сезон.

Торуньскі «Кантакт» пэўным чынам падсумоўвае і набыткі ўласнага, польскага, тэатральнага сезона. Іх можна спазнаць у святле духоўнай азоранасці, празрыстага сузірання душы, мілагучнай шматсэнсавасці слова, моўленага з падмосткаў. Я іранічна пісала пра ідэальнага беларуса. Я прабачаюся перад беларусам ідылічным — у святле нашай «Ідыліі» паводле Дуніна-Марцінкевіча, якой бракуе хіба пракатнай стабільнасці. Праз тэатр насмешкі, поўны адметнай іроніі, чыю вытанчанасць не



*Яцак Мікалайчак (Платонаў) і Эва Скібіньска (Соня) у спектаклі «Платонаў» А. Чэхава*

жыць крытыку з Эстоніі Барысу Туху). Было што не зразумець і грамадзе не-акцёрскай, тым часам як акцёрская грамада ў яркім клоунскім грыме завіхалася вакол пакінутай трамвайнай скрыні-шкілета ў рытме «Ламбады», выгукала штосьці пра п'янства, мацавала выгукі мітуснёй вакол скрыняў з пляшкамі... Магчыма, жудлівае соўванне людзей па спектаклі магло стацца трызненнем героя-механізатара, які, паводле тэксту, адпіў сабе ўсе мазгі. Але ж ніхто іншы мазгоў сабе не адпіваў... я спадзяюся. Між тым спалучэнне падобнага асяродку, падобнага грыму і натуралістычных дзеянняў персанажаў засталіся невытлумачальнымі. Рэжысёрскае намаганне ператварыць шараговы побытавы матэрыял у фантасмагорыю зразумець можна, але чаму за супольнымі вымогамі дзеянне на пляцоўцы так і не зрушылася? Да якой ступені трэба незалюбіць рэжысёру сваіх выканаўцаў, учарашніх аматараў, не шанаваць іхняе годнасці, каб прымусіць, напрыклад, актрысу выставіцца недарайдай ды ў нехлямяжым стрыптызе! Сузіраць гэтага «Антанена Арто з вясковага клуба» пасля першага акта засталося журы з трыма адданымі гледачамі. Другі акт адмянілі. Акцёры плакалі. Наступным днём пра гэта напісалі ці не ўсе польскія газеты.

Уголас я радавалася хіба таму, што ... у беларускай мове няма дакладнага адпаведніка слову «досуг». «Вольная часіна», як той казаў, левым бокам стасуецца з гэтым паняццем. Безумоўна, гэта праява нашага загадкавага менталітэту. Беларус гістарычны (магчыма, блізкі да ідэальнага) не прызвычаены «досужничать», а на слоўка «дасужы» падае цень адмоўнае ацэнкі. «На досуге» беларусы ў тэатр не ходзяць. Хіба, асавечаныя слаўным сямідзесяцігоддзем, часам бавяцца на брудных лаўках ля брудных пад'ездаў, дзе праз паверх, зноў жа, выяўляючы менталітэт, чысцютка вымеценыя прыступкі і мытыя шыбы змяняе павуціннe. Упрыцён да сметніка могуць знайсціся дагледжаныя кусты бэзу, але чаравікі, якія не сутыкаліся ў Торуні нават з мякусенькаю анучкаю (не было патрэбы), штодня трэба шараваць-ваксаваць, ратуючы ад бруду ды іншароднага менталітэту... Дапускаю, што іронія нарадзілася раней за мяне, але, выпраўляючыся ў наваксаваных чаравіках «на мастацтва», беларус, блізкі да ідэальнага, ідзе працаваць. Не рукамі, вядома. Мо і не галавою. Як хто. Праца душы — як вызначыць яе? Як ацаніць ужо ў прафесійным асяродку бясспрэчныя, адвечныя вартасці ўласцівае нам тэатральнай школы, якую так цэніць і так шануе ўсялякі глядач? Школы, якая перадусім заахвочвае вялікую працу душы па абодва бакі рампы? Дарэчы, слоўнік Ластоўскага называе яе зацьмаю, ды інтэлектуальныя слоўнікі ў нас не надта шануюцца, — нават драматургамі. Мабыць, такім чынам набліжаюцца да «народу»...

Менталітэт? Я ўсё пакутую над неагораным, незагойным інтэлектам сваёй нацыі, беручы пад увагу, перш-наперш, перамогу аднаго з цудоўных аматарскіх тэатраў на колішняй «Рампе дружбы» (быў такі фестываль аматараў Прыбалтыкі ды Беларусі) з «Люцікамі-кветачкамі» драматурга Г. Марчука. Журы, колькі разоў падкрэсліла, сярод радасных вітанняў, непрымальную якасць драматургіі: за яе адрабіла шчырасць, натуральнасць і да т. п. выканаўцаў. Аглушальны беларускі правал у Торуні абумовіла, забяспечыла якасць драматургіі. Яе духоўная неспажыўнасць. Такая мая дасужая думка. У «вераснёўскім» выпадку яна памножылася на якасць рэжысуры. заўжды даводзяць акадэмічныя артысты, я намагалася калісь ацаніць эстэтыку ды кірунак спектакля Мікалая Пінігіна. Жорсткай камедыяй канца стагоддзя патыхае ад чэхаўскага «Платонава» ў пастаноўцы Ежы Яроцкага. Паспяховы паказ спектакля здабыў Тэатру Польскаму з Вроцлава трэці фестывальны прыз. Рэжысура спектакля зрабіла на мяне наймоцнае ўражанне: далікатнае, карункавае павуціннe падтэкставага стаўлення персанажаў адно да аднаго ўтварала і празрыстую трагікамічную згарманізаванасць тэатральнага свету, і атмасферу, мовім так, побытавага трагізму, якую не сапсаваў фінальным стрэлам у Платонава (годная работа маладога Яцака Мікалайчака) сам драматург яшчэ ў п'есе. Жорсткая камедыя Ежы Яроцкага зусім не па-мазахісцку памкнула была даследаваць прыроду нашага смеху з саміх сябе. «Увесь свет — тэатр», — мовіла эстэтыка барока ды Шэкспір; «Таямніца нашага мастацтва, любога мастацтва, вялікага мастацтва, таго мастацтва, што імкнецца быць вечным! (...) Гэта жор-сткасць!..» — вельмі ціха, але зразумела мовіў Фаліяль нашага сучасніка, фламандца-бельгійца дэ Гельдэрода («Школа блазнаў»). Жорсткую працу для душы, якая ўнікла раслiннага існавання, задае Ежы Яроцкі.

Польскага «Платонава» неабходна было б прадставіць беларускай аўдыторыі. Наскую й не-наскую жорсткую сацыяльную камедыю, што бесперапынна ахвяруе норавамі, годнасцю, душою, Ежы Яроцкі ўраўнаважыў сваім наваствораным светам. На чорным адзенні сцэны ўзнікаюць персанажы. Прыгожыя людзі ў цёплым штучным святле прыгожа бавяць час. Гаворка струменіць. Вабяць гнуткія, маляўнічыя паставы жанчын. Носяць мэблю лёкаі, арганізуючы рытм падзей. Старыя лёкаі. Маладым прыгожым спадарам. Драбніца гэтая западзе ў глядацкую памяць, каб у рэшце рэшт выявіць расколінку ў гармоніі цёплага сцэнічнага свету. Расколінку незаўважна пашыраюць вясковы настаўнік Платонаў з вясковай настаўніцай Грэкавай, — калежанкай, якой не дадае розуму патаемная закаханасць у жанатага веселуна. А потым Восіп, ваяўнічы скрадзнік навакольных коней, эстэтычна-бязлітасна дамагаецца звестак ад лёкаяў і збівае аднаго з іх. Хвіліну доўжыцца сцэна, але якой філасофскай цытатай вызначыць прывіднае прадчуванне (праклёну? благаславення?), што агортвае перадусім за ўласны лёс? І — прадчуванне насмешлівага благаславення ці жорсткай насмешкі лёсу з жартаўніка Платонава, у якога неяк містычна закахаліся ці не ўсе вартыя жанкі наваколля. Адна з іх у трэцім акце, апафеозе побытавай роспачы, шараговай трагедыйнасці (дождж за вокнамі, люстэркі цьмяна адбіваюць святло), здзейсніць жаласна-жорсткі камічны стрэл, якому і сама веры не дасць... Жорсткая камедыя. Камедыя трагічная, пэўна, была б літасцівейшай да сваіх герояў.

Спектакль Торуньскага тэатра імя В. Хожыцы «Песні перад трыбуналам» паводле П'ера-Жана дэ Бэранжэ з'явіўся ў праграме якраз пасля кулуарных спрэчак пра эстэтыку сучасную, не сучасную і сучасную заўжды. Тэксты Беранжэ, рупліва падабраныя вялікаю аматаркаю ды выканаўцай французскіх песень Мартай Сцябніцкай, перакладаліся на працягу двух стагоддзяў. Сярод прозвішчаў перакладчыкаў я ўбачыла імёны Цыпрыяна Каміла Норвіда ды Уладзіслава Сыракомлі. Песні перад трыбуналам (пад яго дасціпна абыграна глядацкая частка залы) выконваюцца героямі Беранжэ, балазе сам спадар П'ер-Жан паруліўся пра іх



*Сцэна са спектакля «Саната зданяў» А. Стрындберга.*



*Сцэна са спектакля «Песні перад трыбуналам» паводле П.-Ж. дэ Беранжэ*

пераканаўчасць. Пры гэтым адзін з персанажаў суправаджае-прадстаўляе песню ад імя аўтара, або выкладае падрабязнасці жыццяпісу Беранжэ. Дзівосна жывы тэатр, чые персанажы, маляўнічыя ахвяры рэвалюцыі, убраныя ў свае, так бы мовіць, самой гісторыяй пашкуматаныя строі, эцюдным спосабам збіраюць у песні аскепкі сваіх жыццяў. Калі ўжо жанчына на сцэне падымае спадніцу, дык пэўна вызначае, хто варты ўбачыць лытку, а хто — падвязку. Маленькі санкюлот з велізарным барабанам (Гжэгаж Вішнеўскі) перад самою пяшчотаю аддае перавагу барыкадзе. А бабулю, што згадвае прыгоды сваёй маладосці, Малгажата Абрамовіч, Каміля Міхальска ды Ялянта Тэска іграюць разам. Утрох. Вылучаючы сваім выкананнем прыроду жывога тэатра, — таго, што заўжды ў развіцці. Таго, што, скарыстаўшыся з процьмы эстэтык, шчодра адважвае радасць.

*(Працяг на стар. 14)*

